—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
29
ЛІСТАПАДА
1991 г.
№ 48 (3614)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)






Светач.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Кола Дзён

Днямі рэдакцыя атрымала пакет з газетай «Радикальные новости», якая выдаецца ў Італіі, а цяпер — з дапамогай «Комсомольской правды» — і ў Маскве. Гэтае выданне прапагандуе Новую партыю, поўная назва якой вартая кнігі рэкордаў Гінеса: «непрымусова-гандысцкая, транснацыянальная, транспартыйная, дэмакратычная, экалагічная, лаіцысцкая (пазаканфесійная), еўрапейска - федэралісцкая, ліберал-дэмакратычная, ліберал-сацыялістычная, ліберальная, антыаўтарытарная, антыпрагібіцыянісцкая» і г. д. і да т. п. А што, можа, кінуць усё і запісацца ў Новую партыю? (Уступны ўзнос усяго 25 рублёў). Усё-такі весялей, чым назіраць за палітычнымі гульнямі з удзелам «ініцыятыўнай групы па аднаўленні дзейнасці КПБ». Тая партыя хаця б — новая...

### 21 ЛІСТАПАДА

**пасля гібелі экіпажа і пасажыраў верталёта «Мі-8Т» у Нагорным Карабаху (сярод загінуўшых былі прадстаўнікі Азербайджана, Казахстана, Расіі) рэзка ўзрасла напружанасць ва ўзаемаадносінах Азербайджана і Арменіі. Сарваліся перагаворы аб аднаўленні падачы газу з Азербайджана ў Арменію. Заблакіраваны чыгуначны рух.**

**Б. Ельцын прыбыў у сталіцу ФРГ. Пачаўся першы афіцыйны візіт Прэзідэнта РСФСР у замежную дзяржаву.**

**А Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў, які, відаць, памяняўся са сваім даўнім сапернікам ролямі, накіраваўся ў вяж у Іркуцк і Бішкек — на сустрэчу з «простымі выбаршчыкамі».**

### 22 ЛІСТАПАДА

**апублікаваны распараджэнні СМ Беларусі, згодна з якімі ўсе разлікі паміж юрыдычнымі асобамі цяпер праводзяцца толькі ў безнаяўнай форме праз банкаўскія ўстановы. Грашовыя пераводы, якія паступаюць з-за мяжы рэспублікі, аплачваюцца ў памеры да 500 рублёў. Прамтавары коштам звыш 500 рублёў рэалізуюцца жыхарам Беларусі па чэкавых кніжках. Гэтыя і падобныя меры накіраваны супраць так званай «рублёвай інтэрвенцыі».**

### 23 ЛІСТАПАДА

**аб'яўлена аб чарговым перамір'і паміж Сербіяй і Харватыяй. Па звестках ТАНЮГ, у баях за горад Вукавар (яго называюць цяпер Харвацкім Сталінградам) загінула ад 3 да 5 тысяч чалавек. Тым часам пачалася канцэнтрацыя войскаў Югаслаўскай арміі вакол горада Осіек.**

### 24 ЛІСТАПАДА

**на выбарах Прэзідэнта Таджыкістана перамогу атрымаў Рахмон Набіеў. Яго галоўны сапернік, якога падтрымлівае апазіцыя, — кінарэжысёр Даўлат Худаназараў аспрэчвае вынікі галасавання. Ёсць звесткі, што выбары праходзілі са шматлікімі грубымі парушэннямі закона. Як тут не ўспомніць мінулагоднія выбары ў Вярхоўны Савет БССР!**

### 25 ЛІСТАПАДА

**запланаванага парафіравання Саюзнага дагавору ў Нова-Агарове не адбылося. Замест гэтага Дзяржсавет прыняў калектыўную пастанову аб перадачы тэксту Дагавору на разгляд парламентаў суверэнных дзяржаў. (Дарэчы, на Дзяржсавеце гэтым разам былі прадстаўлены ўсяго сем рэспублік.) Хутчэй за ўсё, гэта азначае, што Дагавор не будзе падпісаны. Ва ўсякім выпадку — да канца гэтага года. Раней Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў абяцаў падаць у адстаўку, калі Дагавор не будзе падпісаны ў снежні...**

### 26 ЛІСТАПАДА

**надзвычайная сесія Вярхоўнага Савета Азербайджана прыняла рашэнне ліквідаваць статус аўтаноміі Нагорна-Карабахскай вобласці і перайменаваць Сцепанакерт.**

**У Вярхоўным Савеце Беларусі прайшла рабочая сустрэча з дэпутатамі Еўрапарламента.**

АДРАДЖЭННЕ

# Сябры «Пагоні» вернуцца на Беларусь...

**Апошнім часам актывізуецца рух беларускай моладзі. У Менску дзейнічаюць Задзіночанне беларускіх студэнтаў і Хаўрус беларускамоўных студэнтаў універсітэта.**

**Нядаўна нашай рэдакцыі стала вядома, што ўзнікла таксама Згуртаванне беларускай моладзі ў Маскве (ЗБММ). Мае яно найменне «Пагоня». Што сабой уяўляе новы асяродак беларушчыны, якія яго мэты — аб гэтым наш карэспандэнт распытаў сябра ЗБММ «Пагоня» студэнта сацыялагічнага факультэта МДУ імя М. Ламаносава Міхася ЧУЧКЕВІЧА.**

**— Нядаўна даведаўся, што ў Маскве створана Згуртаванне беларускай моладзі «Пагоня»... Калі ласка, Міхась, раскажы пра «Пагоню» падрабязней.**

— ЗБММ «Пагоня» існуе яшчэ з 1988 года. У сваім цяперашнім выглядзе яно ўтварылася месяц таму. Галоўнае адрозненне новага Згуртавання ад старога ў тым, што змяніўся характар нашай дзейнасці. Зараз мы жадаем існаваць як асобная грамадская арганізацыя. Акрамя таго, прыйшло шмат новых людзей. Гэта — самае галоўнае. У асноўным гэта людзі, якія з нейкіх прычын прыехалі ў Маскву і навучаюцца ў найбольш вядомых ВНУ. Ёсць і тыя, хто працуе, пастаянна пражываючы ў Маскве. Іх, праўда, няшмат.

**— Якімі сродкамі вы карыстаецеся?**

— У статуце Згуртавання акрэслены асноўныя крыніцы нашых сродкаў: добраахвотныя ахвяраванні грамадзян, калектываў, арганізацый ды ўстаноў, прыбытак ад культурна-масавых мерапрыемстваў, гандлю літаратурай з Беларусі, камерцыйнай дзейнасці. На жаль, пакуль мы яшчэ толькі чакаем рэгістрацыі, сродкі з'яўляюцца, галоўным чынам, ад добраахвотных ахвяраванняў. Вядома ж, іх недастаткова — дай Бог, каб хапіла на рэгістрацыю (за рэгістрацыю грамадскага аб'яднання ў Маскве трэба плаціць 3 тысячы рублёў).

Мы хацелі б наладзіць сувязі з тымі, каго цікавіць нашае Згуртаванне ды перспектыва доўгатэрміновага ўзаемакарыснага супрацоўніцтва.

**— Чым адрозніваецца дзейнасць беларускай арганізацыі ў Маскве?**

— Калі я параўноўваю нашу арганізацыю з існуючымі на Беларусі, дык пераконваюся ў тым, што ёсць значныя адрозненні. Па-першае, у Маскве ўсё больш шчыльна трымаюцца, лепей разумеюць адзін аднаго. Нават беларускую мову ведаюць лепей, чым на Беларусі. Па-другое, мы не ўцягнутыя ў гульні розных палітычных груповак, як гэта часта здараецца з арганізацыямі моладзі тут. І, нарэшце, спецыфіка праяўляецца ў высокім адукацыйным ды інтэлектуальным узроўні сябраў нашае арганізацыі. Масква, якая і зараз застаецца бурлівым скрыжаваннем цікавых і павучальных падзей, ёсць вялікая школа не толькі навукі, але і палітыкі, любові да сваёй Радзімы. Сябры «Пагоні», большасць з якіх жадае сюды вярнуцца, сваю свядомасць і веды будуць выкарыстоўваць дзеля пабудовы незалежнай і моцнай Рэспублікі Беларусь.

**— Якія ёсць мэты ў вашае арганізацыі, акрамя тых, што ўжо былі названыя? Ці зроблена што-небудзь канкрэтнае?**

— У нашым статуце гаворыцца пра сувязі з беларускімі арганізацыямі па-за межамі Рэспублікі, кантакты і усталяванне сяброўскіх адносін з іншымі нацыянальнымі арганізацыямі Масквы. Акрамя таго, прадугледжаны меры сацыяльнай аховы нашых сяброў, у асноўным — студэнтаў. Трэба адзначыць, што канкрэтныя справы па гэтых напрамках ужо даюць пэўныя вынікі.

Цікавыя і карысныя знаёмствы ёсць у нас таксама на Беларусі сярод сяброў Задзіночання беларускіх студэнтаў «Чырвонага Жонда», Хаўруса беларускамоўных студэнтаў універсітэта, некаторых іншых арганізацый. **Адрас для кантактаў: 101000 Масква, вул. Б. Хмяльніцкага, д. 17/2, для «Пагоні».**

# НАША ХІМІЯ

На біялагічным факультэце Віцебскага дзяржпедінстытута імя С. М. Кірава ўведзены новыя курсы «тэрміналагічны практыкум па хіміі» і «тэрміналагічны практыкум па біялогіі». У канцы курсаў кожны пяцікурснік мусіць здаць залік, патрабаванні да якога наступныя: здольнасць весці дзесяціхвілінную нязмушаную гутарку на хімічную тэму і цвёрдае веданне хімічнае лексікі. Пералік апошняе пададзены ў адрукаваным на інстытуцкім ратапрынце «Кароткім беларускарускім слоўніку хімічнай тэрміналогіі» (наклад 125 асобнікаў). У яго аснову пакладзены тэрміны, распрацаваныя ў 20-х гадах Інстытутам беларускае культуры.

**Уладзімір СЛАБІН,**
**асістэнт кафедры хіміі ВДПІ імя С. М. Кірава.**

# МЫ МАЕМ ПРАВА МЕЦЬ ПРАВЫ

23 лістапада ў Доме літаратара адбылася чарговая канферэнцыя Мінскай гарадской філіі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, гэтым разам прысвечаная праблемам абароны правоў чалавека.

Удзельнікі абмеркавалі шырокі комплекс пытанняў, звязаных з правамі чалавека як у шырокім сэнсе (права на жыццё і чалавечае існаванне), так і ў больш вузкім (права на ўласнасць, на нармальнае медыцынскае абслугоўванне і г. д.). Сябры БСДГ выказалі думкі і меркаванні па праекце новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У канферэнцыі прынялі ўдзел шматлікія госці — прадстаўнікі свабодных прафсаюзаў, Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, Беларускай сялянскай і Нацыянал-дэмакратычнай партый, Лігі жанчын.

Адкрыў і вёў канферэнцыю народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў.

**НАШ КАР.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Ці трэба крыўдзіцца на мадам д'Анкос?

**У «Народнай газеце» Анатоль Майсеня ў адным са сваіх артыкулаў абураўся тым, што супрацоўніца Французскай Акадэміі навук Хелен Гарэр д'Анкос піша, што Беларусь прыдумалі бальшавікі. Аўтар раіў мадам д'Анкос пачытаць працы У. Ігнатоўскага, М. Ермаловіча, М. Ткачова, У. Ластоўскага, Л. Лыча...**

**Магчыма, і сапраўды варта было б даць аргументаваны артыкул у газету «Фігаро» і растлумачыць яе чытачам, што Беларусь з'яўляецца ў нейкім сэнсе правапераемніцай Вялікага княства Літоўскага, хаця б па мове і культуры. Але задамо сабе пытанне: ці так ужо не мае рацыі мадам д'Анкос?**

**Я не спецыяліст па гісторыі, але мяркую, што ва ўсіх французскіх, англійскіх, нямецкіх гістарычных падручніках нічога няма аб гісторыі Беларусі. Там, пэўна, нічога няма і аб «вызваліцельных паходах расійскіх, украінскіх і беларускіх войск супраць польскіх і літоўскіх захопнікаў».**

**Магчыма, асабліва для Хелен д'Анкос тоеснасць старажытнай Літвы і сучаснай Беларусі не з'яўляецца сакрэтам. А вось для звычайнага француза (немца, ангельца ці амерыканца) гэтая тоеснасць — як адкрыццё Калумба. А хіба не ўсім нам усялялі думку аб тым, што сваю дзяржаўнасць Беларусь атрымала толькі пры савецкай уладзе? І. трэба мовіць, усялілі стаг Можа. трэба пачынаць з н самiх?**

**Ці знайшоўся такі дэпутат у Вярхоўным Савеце, які прапанаваў бы назву Рэспублікі — Літва? Пэўна, не. А калі б нехта і прапанаваў, дык яго б не зразумелі. І баюся, што зразумеюць не вельмі хутка. Амаль дзвесце гадоў расійскі імперыялізм, а потым «розум, гонар і сумленне» вытручвалі з памяці людской само разуменне «ліцвін» і небеспаспяхова. Нас амаль прывучылі да ролі «малодшага брата», які не мае ні сваёй гісторыі, ні культуры, ні мовы, якога заўсёды «тапталі польскія і літоўскія магнаты», у якога нават імя не было.**

**Відаць, не трэба крыўдзіцца на мадам д'Анкос. Спачатку трэба аднавіць гістарычную справядлівасць у свядомасці людзей, і не толькі праз сродкі масавай інфармацыі. У першую чаргу трэба навукоўцам пераадолець псіхалагічны бар'ер і ўнесці змены ў падручнікі па гісторыі нашай Радзімы. І не апошняе слова за літаратурай і мастацтвам...**

**Тады не прыйдзецца нічога тлумачыць ні мадам д'Анкос, ні чытачам газеты «Фігаро».**

**Лаўрэн ЖАЛЕЗНЯКОЎ.**
г. Гомель.

# ЗАЯВА

## выканкома Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады па праблеме раздзяржаўлення і прыватызацыі

Кіруючыся праграмнай заявай БСДГ і разумеючы, што неабходна паскорыць эканамічныя пераўтварэнні ў народнай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь, каб пераадолець крызіс у эканоміцы і вывесці яе на нармальны шлях далейшага развіцця, выканком Цэнтральнай Рады БСДГ разглядае раздзяржаўленне народнай гаспадаркі як праблему даўно наспелую і неадкладную. Толькі праз раздзяржаўленне можна пазбавіцца манапалізму ў эканоміцы, які прывёў да затухання гаспадарчай дзейнасці і своеасаблівага яе паралічу на Беларусі і ў былым Саюзе.

Сусветны вопыт сведчыць, што раздзяржаўленне можна ажыццявіць толькі праз перадачу дзяржаўнай маёмасці ў рукі непасрэдных вытворцаў— калектываў, кааператываў, асацыяцый і прыватных асоб. Гэта будзе служыць станаўленню змешанай эканомікі, эфектыўнасць якой даказана ў шматлікіх краінах свету. Раздзяржаўленне мае дзве ўзаемаабумоўленыя задачы. Адна з іх — праз прыватную, група-прыватную, калектыўна-прыватную ўласнаць абудзіць прадпрымальніцкі дух народа, творчую ініцыятыву, працавітасць і адказнасць працаўнікоў за вынікі сваёй працы; другая — дасягненне сацыяльнай справядлівасці. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь павінен атрымаць сваю законную долю таго багацця, якое набыта дзяржавай за кошт яго працы.

Галоўны напрамак раздзяржаўлення — прыватызацыя. Яе трэба паскараць, але не спяшаюся. Трэба правесці вялікую, галосную падрыхтоўку да гэтага працэсу, а менавіта:

1. Зрабіць інвентарызацыю і эканамічную ацэнку ўсіх асноўных і абаротных фондаў у народнай гаспадарцы Рэспублікі, уключаючы і эканамічную ацэнку зямлі. Ацэнку неабходна зрабіць у доларах, рублях, і тых грашах, якія будуць уведзены ў Рэспубліцы, з улікам іх валютнага курсу.

2. Ажыццявіць перапіс працаздольнага насельніцтва і пенсіянераў — грамадзян Рэспублікі Беларусь з улікам працоўнага стажу і ўкладу ў народную скарбонку.

3. Вызначыць долю ўласнасці і сферы народнай гаспадаркі, якія не падлягаюць прыватызацыі.

4. Навукова ўстанавіць, якую частку належачай да прыватызацыі ўласнасці перадаць народу бясплатна ў выглядзе каштоўных папер з правам прысваення часткі будучага прыбытку, а якую — за выкуп.

5. Правесці грашовую рэформу (увесці грошы Рэспублікі Беларусь), без якой народнае дабро «паплыве» не ў рукі рабочых, сялян і інтэлігенцыі, а да махляроў і здабытчыкаў грошай не толькі з ліку грамадзян Рэспублікі Беларусь, але іншых дзяржаў, дзе ўводзяцца свае грошы і існуе імкненне «сплавіць драўляныя грошы» на Беларусь, якая і да гэтага часу аніяк не абаронена ад валютнай інтэрвенцыі.

6. Заканадаўча размеркаваць уласнасць на дзяржаўную (усёй рэспублікі) і муніцыпальную (абласцей, гарадоў, раёнаў, гарадскіх пасёлкаў і г. д.). Да прыватызацыі муніцыпальнай уласнасці трэба падыходзіць вельмі асцярожна. Напрыклад, ці мае сэнс прыватызаваць зямлю і нежылы фонд, якія знаходзяцца ў камунальнай (муніцыпальнай) уласнасці?

Выканком БСДГ заяўляе пратэст супраць явачнай, падзаконнай (названай у народзе «дзікай») прыватызацыі ў адпаведнасці з «Часовым парадкам раздзяржаўлення эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці Рэспублікі Беларусь», зацверджаным пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23 верасня 1991 года № 360. Гэтая пастанова ёсць нішто іншае, як спроба былой наменклатуры цішком расцягнуць народнае дабро, а працоўных пакінуць ні з чым. Стыхійная прыватызацыя павінна быць прыпынена, а ўказаная пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь неадкладна адменена.

ПРАЕКТ

# СТАТУТ

## ЛІТАРАТУРНАГА ФОНДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Паважаныя таварышы!**

**Праўленне Беллітфонду прапануе вашай увазе праект Статута Беллітфонду. Паколькі вельмі прыспешвае час (трэба зарэгістраваць Статут у Міністэрстве юстыцыі, каб у 1992 годзе ў нас была самастойная арганізацыя «Літаратурны фонд Рэспублікі Беларусь», скарочана «Беллітфонд»), пераканаўча просім вас у самы кароткі тэрмін пасля апублікавання (на працягу тыдня) выказаць свае заўвагі, меркаванні, прапановы, што будзе афіцыйным абмеркаваннем гэтага дакумента замест канферэнцыі членаў Літфонду, на правядзенне якой не застаецца часу.**

**ПРАЎЛЕННЕ БЕЛЛІТФОНДУ.**

### 1. Агульныя палажэнні

1. 1. Літаратурны фонд Рэспублікі Беларусь (у далейшым — Беллітфонд) — добраахвотная грамадская дабрачынная і гаспадарчая арганізацыя Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, якая ўваходзіць на падставе федэратыўных сувязей у Літаратурны фонд СССР.

1.2. Дзейнасць Беллітфонду распаўсюджваецца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і будуецца на падставе самакіравання, галоснасці і раўнапраўя яе членаў. Беллітфонд таксама можа мець свае прадстаўніцтвы ў іншых рэспубліках і краінах.

1.3. Беллітфонд з'яўляецца правапераемнікам Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР у адносінах сродкаў і маёмасці, якія належалі апошняму.

1.4. Беллітфонд ажыццяўляе сваю дзейнасць адпаведна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзейным заканадаўствам, а таксама палажэннямі гэтага Статута.

1.5. Беллітфонд валодае правам заканадаўчай ініцыятывы ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, а таксама правам вылучэння кандыдатаў у народныя дэпутаты.

1. 6. Умяшальніцтва дзяржаўных органаў і іншых структур дзяржаўнага кіравання, а таксама палітычных партый і іншых грамадскіх арганізацый, якія ажыццяўляюць палітычныя мэты, у статутную дзейнасць Беллітфонду не дапускаецца, а таксама не дапускаецца ўмяшальніцтва Беллітфонду ў дзейнасць апошніх.

1.7. Беллітфонд з'яўляецца юрыдычнай асобай, валодае адасобленай маёмасцю, мае самастойны баланс, адкрывае разліковыя і валютныя рахункі ў банкаўскіх установах. Мае пячатку і штамп са сваім найменнем, эмблему і іншую сімволіку.

1.8. Месца знаходжання Беллітфонду — г. Мінск. Паштовы адрас: 220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5.

### II. Мэты, задачы і формы дзейнасці Беллітфонду

2.1. Беллітфонд створаны з мэтай умацавання і развіцця матэрыяльнай базы Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, стварэння спрыяльных умоў для павышэння творчага патэнцыялу і прафесійнага майстэрства пісьменнікаў, забеспячэння іх сацыяльна-прававой абароненасці і павышэння жыццёвага ўзроўню, садзеяння і дапамогі пачынаючым літаратарам, а таксама аховы літаратурнай спадчыны.

2.2. Для дасягнення сваіх мэтаў Беллітфонд:

2.2.1. Аказвае сваім членам і іх сем'ям матэрыяльную дапамогу шляхам выдачы дапамогі, пазык, фінансавання творчых камандзіровак і ў іншых формах, якія прадугледжвае дзейнае заканадаўства і ў адпаведнасці з гэтым Статутам;

2.2.2. Арганізуе для сваіх членаў і іх сем'яў медыцынскую дапамогу і санаторна-курортнае лячэнне;

2.2.3. Арганізуе культурна-бытавое абслугоўванне сваіх членаў і іх сем'яў, садзейнічае паляпшэнню іх жыллёвых умоў;

2.2.4. Прымае на сябе ахову аўтарскіх правоў пісьменнікаў;

2.2.5. Аказвае падтрымку пачынаючым літаратарам шляхам увядзення спецыяльных стыпендый і фондаў, аказання ім матэрыяльнай і іншай дапамогі;

2.2.6. Вырашае іншыя задачы, якія выцякаюць з гэтага Статута.

2.3. Для паспяховага вырашэння пастаўленых задач Беллітфонд самастойна, а таксама сумесна з дзяржаўнымі органамі і грамадскімі арганізацыямі, у тым ліку і замежнымі:

2.3.1. Будуе і ўтрымлівае дамы творчасці і адпачынку, пансіянаты, паліклінікі, прадпрыемствы бытавога абслугоўвання і грамадскага харчавання і іншыя ўстановы і прадпрыемствы для абслугоўвання членаў Беллітфонду і іх сем'яў;

2.3.2. Ажыццяўляе выдавецкую дзейнасць;

2.3.3. Набывае і саступае аўтарскае права на літаратурныя творы;

2.3.4. Наладжвае кантакты з літаратурнымі фондамі і аналагічнымі арганізацыямі ў іншых краінах;

2.3.5. Арганізуе і праводзіць лекцыі, семінары, канцэрты, выстаўкі, аўкцыёны і іншыя мерапрыемствы культурна-асветніцкага і дабрачыннага характару;

2. 3. 6. Ва ўстаноўленым парадку стварае ўласныя і сумесныя прадпрыемствы, установы і арганізацыі, у тым ліку: уласныя магазіны, магазіны-салоны, у якіх рэалізуе ўласную прадукцыю, а таксама прадукцыю іншых прадпрыемстваў, арганізацый, кааператываў, у т. л. замежных. Стварае і развівае кантакты з замежнымі фірмамі, устанаўлівае супрацоўніцтва з арганізацыямі, дзеячамі культуры і асобнымі грамадзянамі.

2.3.7. Ажыццяўляе іншую не забароненую законам гаспадарчую і сацыяльную дзейнасць, якая садзейнічае рэалізацыі статутных мэт і задач.

### III. Члены Беллітфонду, іх правы і абавязкі

3. 1. Членамі Беллітфонду з'яўляюцца члены Саюза пісьменнікаў СССР і Літаратурнага фонду СССР, якія стаяць на ўліку ў пісьменніцкай арганізацыі Рэспублікі Беларусь, плацяць уступны ўзнос і членскія ўзносы, прызнаюць Статут і прымаюць удзел у дзейнасці Беллітфонду.

3.2. У выключных выпадках, з улікам асаблівых заслуг у развіцці літаратуры, па прадстаўленні прэзідыума праўлення Беллітфонду, у лік яго членаў могуць быць прыняты прафесійныя літаратары, якія не з'яўляюцца членамі Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь.

3.3. Прыём у члены Беллітфонду ажыццяўляецца яго праўленнем.

3.4. Член Беллітфонду мае права:

3.4.1. Выбіраць і быць выбраным у любы выбарны орган Беллітфонду;

3.4.2. Уносіць прапановы ва ўсе органы Беллітфонду па пытаннях, звязаных з яго дзейнасцю;

3.4.3. Удзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах, якія арганізуе Беллітфонд;

3.4.4. Звяртацца ў Беллітфонд па абарону сваіх правоў і законных інтарэсаў;

3.4.5. Мае іншыя правы, у адпаведнасці з палажэннямі гэтага Статута.

3.5. Член Беллітфонду абавязаны:

3.5.1. Плаціць уступныя і членскія ўзносы;

3.5.2. Актыўна садзейнічаць вырашэнню задач, што стаяць перад Беллітфондам;

3.5.3. Захоўваць патрабаванні гэтага Статута, а таксама рашэнні і пастановы кіруючых органаў Беллітфонду;

3.5.4. Аказваць неабходную дапамогу і садзеянне іншым членам Беллітфонду ў рэалізацыі статутных мэт і задач.

3.6. Членства ў Беллітфондзе спыняецца ў выпадках:

3.6.1. Выхаду з Беллітфонду па ўласным жаданні;

3.6.2. Выключэння з Беллітфонду за грубае парушэнне Статута і сістэматычнае ўхіленне ад удзелу ў дзейнасці Беллітфонду, а таксама за няўплату членскіх узносаў без уважлівых прычын больш за адзін год;

3.6.3. Выключэнне з Саюза пісьменнікаў аўтаматычна цягне за сабой выключэнне з членаў Беллітфонду.

3.7. Выключэнне і афармленне выхаду з членаў Беллітфонду ажыццяўляе праўленне;

3.8. Рашэнне аб выключэнні на працягу месяца можа быць абскарджана ў вышэйстаячы орган.

### IV. Арганізацыйная будова, кіруючыя і кантрольны органы Беллітфонду

4.1. Беллітфонд з'яўляецца цэласнай, без мясцовых структур, грамадскай арганізацыяй, якая мае членамі прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў рэспублікі.

4.2. Вышэйшым кіруючым органам Беллітфонду з'яўляецца канферэнцыя, якая склікаецца не радзей за адзін раз у 5 гадоў.

Члены Беллітфонду апавяшчаюцца аб скліканні канферэнцыі не пазней, чым за 30 дзён;

4.3. Пазачарговая канферэнцыя можа склікацца:

4.3.1. Па рашэнні праўлення;

4.3.2. Па патрабаванні не менш 1/3 членаў Беллітфонду;

4.3.3. Па патрабаванні рэвізійнай камісіі.

4.4. Канферэнцыя членаў Беллітфонду;

4.4.1. Вызначае асноўныя напрамкі дзейнасці Беллітфонду;

4.4.2. Зацвярджае Статут, уносіць у яго змены і дапаўненні;

4.4.3. Выбірае праўленне і рэвізійную камісію;

4.4.4. Заслухоўвае і зацвярджае справаздачы праўлення і рэвізійнай камісіі;

4.4.5. Разглядае іншыя пытанні дзейнасці Беллітфонду.

4.4.6. Парадак і форма галасавання вызначаюцца ўдзельнікамі канферэнцыі. Канферэнцыя правамоцная пры ўдзеле ў яе рабоце не менш за 2/3 членаў Беллітфонду.

4.5. Праўленне Беллітфонду:

4.5.1. Кіруе дзейнасцю Беллітфонду ў перыяд паміж канферэнцыямі;

4.5.2. Арганізуе выкананне рашэнняў канферэнцыі;

4.5.3. Зацвярджае на пасаду дырэктара Беллітфонду і яго намеснікаў;

4.5.4. Зацвярджае статуты і палажэнні ствараемых Беллітфондам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый і каардынуе іх дзейнасць;

4.5.5. Фарміруе структуру штатнага апарату і грамадскіх органаў, зацвярджае каштарыс даходаў і выдаткаў Беллітфонду;

4.5.6. Вырашае пытанні аб прыняцці ў члены Беллітфонду і аб выключэнні і выхадзе з яго;

4.5.7. Вырашае іншыя пытанні дзейнасці Беллітфонду.

4.6. Праўленне Беллітфонду са свайго складу выбірае прэзідыум і дэлегуе яму частку сваіх паўнамоцтваў.

4.7. Пленум Беллітфонду праводзіцца не радзей за адзін раз у год. Парадак і форма галасавання вызначаюцца на пленуме.

4.8. Старшыня праўлення (ён жа старшыня прэзідыума Беллітфонду) прадстаўляе інтарэсы Беллітфонду ў зносінах з дзяржаўнымі органамі і грамадскімі арганізацыямі, у тым ліку іншаземцамі, кіруе работай праўлення.

4.8.1. Старшыня робіць справаздачу перад канферэнцыяй за дзейнасць Беллітфонду.

4.8.2. У адсутнасць старшыні яго абавязкі выконвае прызначаны ім намеснік.

4.9. Дырэкцыя Беллітфонду — пастаянна дзейны выканаўчы орган, які забяспечвае вырашэнне надзённых пытанняў дзейнасці Беллітфонду. Дырэкцыя складаецца з дырэктара і яго намеснікаў, якія зацвярджаюцца на пасады праўленнем, а таксама апарату дырэкцыі.

4.9.1. Дырэктар Беллітфонду з'яўляецца намеснікам старшыні праўлення па пасадзе і на час работы карыстаецца правамі члена Беллітфонду.

4.9.2. Валодае правам прыёму, пераводу, звальнення работнікаў апарату дырэкцыі (з наступным зацвярджэннем праўленнем), вызначае іх абавязкі;

4.9.3. Прымае рашэнні аб прад'яўленні ад імя Беллітфонду прэтэнзій і іскаў да юрыдычных асоб і грамадзян у абарону парушаных інтарэсаў Беллітфонду;

4.9.4. У межах прадастаўленых яму паўнамоцтваў вырашае іншыя пытанні, звязаныя з гаспадарчай дзейнасцю Беллітфонду.

4.10. Кантрольным органам Беллітфонду з'яўляецца рэвізійная камісія:

4.10.1. Рэвізійная камісія выбіраецца на канферэнцыі Беллітфонду.

4.10.2. У склад рэвізійнай камісіі не могуць уваходзіць члены праўлення і супрацоўнікі дырэкцыі Беллітфонду.

4.10.3. Члены рэвізійнай камісіі са свайго складу выбіраюць старшыню, яго намеснікаў і сакратара.

4.10.4. Праверка дзейнасці Беллітфонду праводзіцца па меры неабходнасці, але не радзей за адзін раз на год.

4.10.5. Рэвізійная камісія мае права патрабаваць ад службовых асоб і кіруючых органаў Беллітфонду прадастаўлення ёй усіх неабходных матэрыялаў, бухгалтарскіх і іншых дакументаў і асабістых тлумачэнняў.

4.10.6. Рэвізійная камісія інфармуе канферэнцыю Беллітфонду і яго праўленне аб выніках праверак і ўносіць прапановы па выкараненні недахопаў.

4.10.7. Члены рэвізійнай камісіі прымаюць удзел у рабоце выбарных органаў Беллітфонду з правам дарадчага голасу.

### V. Сродкі і маёмасць Беллітфонду

5.1. Сродкі Беллітфонду фарміруюцца з:

5. 1. 1. Уступных і членскіх узносаў, а таксама адлічэнняў ад аўтарскага ганарару за творы мастацкай літаратуры ва ўстаноўленым урадам памеры.

5. 1. 2. Добраахвотных узносаў і ахвяраванняў, адлічэнняў прадпрыемстваў, кааператываў, фірм і арганізацый, створаных пры Беллітфондзе, прыбытку ад знешнеэканамічнай дзейнасці Беллітфонду.

5.1.3. Адлічэнняў Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь;

5.1.4. Паступленняў ад мерапрыемстваў, што праводзяцца ў адпаведнасці са Статутам і накіраваны на рэалізацыю мэт і задач Беллітфонду;

5.1.5. Даходаў ад выдавецкай дзейнасці;

5. 1. 6. Даходаў ад вытворча-гаспадарчай, гандлёвай, гандлёва-пасрэдніцкай, камерцыйнай і іншых відаў дзейнасці Беллітфонду, што ажыццяўляецца ва ўстаноўленым парадку і адпаведна з гэтым Статутам;

5.1.7. Іншых не забароненых заканадаўствам паступленняў.

5.2. Акрамя таго, Беллітфонд можа атрымліваць грашовыя сродкі і іншую маёмасць, якая паступае з-за мяжы, у адпаведнасці з мэтамі і задачамі Беллітфонду і ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам.

5.3. Для забеспячэння сваёй дзейнасці і выканання статутных мэт і задач Беллітфонд можа мець ва ўласнасці будынкі, збудаванні, жыллёвы фонд, інвентар, маёмасць вытворчага, культурна-асветнага і аздараўленчага прызначэння, акцыі і іншыя каштоўныя паперы, якія выпускаюцца ва ўстаноўленым законам парадку, іншую маёмасць, неабходную для матэрыяльнага забеспячэння дзейнасці Беллітфонду.

5.4. Сродкі Беллітфонду выкарыстоўваюцца для ажыццяўлення статутных мэт і задач і не могуць размяркоўвацца ў якасці даходаў паміж яго членамі.

5.5. Беллітфонд адказвае па сваіх абавязацельствах сваёю маёмасцю, на якую, згодна дзейнага заканадаўства, можа быць накладзена спагнанне.

5.6. Члены Беллітфонду не адказваюць па абавязацельствах Беллітфонду, Беллітфонд не адказвае па абавязацельствах яго членаў.

### VI. Спыненне дзейнасці Беллітфонду

6.1. Дзейнасць Беллітфонду спыняецца па рашэнні канферэнцыі, прынятым не менш чым 2/3 галасоў прысутных дэлегатаў, ці па рашэнні суда.

6.2. Для вырашэння пытанняў аб маёмасці і сродках Беллітфонду ствараецца ліквідацыйная камісія.

6.3. Маёмасць і сродкі Беллітфонду, што засталіся пасля разлікаў з крэдыторамі, выкарыстоўваюцца на мэты, прадугледжаныя Статутам.

**ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ**

# Універсітэт усё шукае сваё месца...

## Журналіст даследуе праблему

Беларускі дзяржаўны універсітэт 30 кастрычніка г. г. адзначыў свой 70-гадовы юбілей. І ўсё ж далёка не святочным настроем ён жыве. Зрэшты, не выклікае задавальнення, тым больш радасці, і другая святочная дата — хуткае двухгоддзе «Закона аб мовах у Беларускай ССР». Шаноўны чытач, пэўна, не ўгледзіць якой-колечы сувязі паміж згаданымі падзеямі. А яна ёсць, і прытым надта яскравая.

Час паказаў, што выкананне Закона аб мовах не забяспечана дэ-факта: ён проста ігнаруецца. І для БДУ яго як бы не існуе. Хоць, відаць, будзе правільней ужыць мінулы час: не існавала. Бо й праўда: амаль што ніводзін прадмет не выкладаецца ў гэтай установе па-беларуску, апроч, натуральна, мовы і літаратуры і адной-дзвюх іншых дысцыплін. Ці трэба яшчэ аб чым гаварыць, калі нават гісторыя Беларусі і тая падаецца студэнтам па-расейску (абсурд — і толькі!). А, між іншым, не пераводзячы ўсё навучанне на беларускую мову, пра беларусізацыю лепш не гаварыць.

Не маю такое мэты, дый не хачу рабіць закіды ў бок аднаго БДУ. Гэта, прынамсі, было б несправядліва: уся наша сістэма адукацыі хварэе на комплекс нацыянальнага нігілізму. Але каму, як не вядучай ВНУ рэспублікі, паказваць прыклад у беларусізацыі?

Нацыянальная alma mater да апошняга часу захоўвала гордае маўчанне. Такое гаротнае становішча спраў, пэўна, цягнулася б да гэтага часу, калі б не адно «але»: з 8 па 12 кастрычніка ў БДУ працавала група па праверцы выканання Закона аб мовах. Менавіта яна зрабіла першую спробу разбудзіць універсітэт ад летаргічнага сну. Група здзяйсняла праверку па заданні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. У складзе групы працавалі выкладчыкі іншых ВНУ рэспублікі, члены гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў г. Мінска.

Афіцыйныя высновы, зробленыя пасля 5-дзённай праверкі, вартыя асаблівай увагі. Іх выклаў у нашай гутарцы кіраўнік групы, старшыня гарадскога бацькоўскага камітэта Алесь Анатольевіч Шамак.

**КАР.: — Алесь Анатольевіч, раскажыце, калі ласка, аб ходзе праверкі.**

**А. Ш.:** — Група сустракалася з дэканамі ці іх намеснікамі практычна ўсіх факультэтаў. Мы праглядзелі дакументацыю, планы, сустракаліся з рэктаратам. Мелі месца сустрэчы групы са студэнтамі беларускамоўных плыняў, выкладчыкамі, якія вядуць свае прадметы па-беларуску. Адбыліся таксама і незапланаваныя сустрэчы...

**КАР.: — Якую карціну ўяўляе сабой беларусізацыя універсітэта?**

**А. Ш.:** — Папраўдзе, універсітэт недастаткова займаецца пытаннямі выканання Закона аб мовах. Хоць і зроблены пэўныя крокі ў гэтым накірунку, ды на фоне іншых ВНУ сітуацыя тут куды горшая. Ёсць, безумоўна, прыхільнікі беларусізацыі як сярод студэнтаў (некаторыя з іх гатовыя нават на 5 курсе перайсці на беларускую мову), так і паміж выкладчыкаў (ёсць такія, хто належным чынам падрыхтаваны і можа ўжо зараз выкладаць на роднай мове). Так што жыццё тут не замерла. Карацей, патэнцыяльныя магчымасці ёсць, але на першым этапе яны не выкарыстоўваюцца.

**КАР.: — Усё гэта крыху агульна. Хацелася б пачуць што-небудзь канкрэтнае...**

**А. Ш.:** — Ну, перш за ўсё, недастатковая колькасць беларускамоўных плыняў на факультэтах. Не з шэрагу апошніх і праблема кадраў. Нават тым выкладчыкам, якія ўсё-такі выкладаюць свае прадметы на мове нацыянальнай, не выплачваюцца даплаты. Няма актыўнага ўкаранення ва універсітэцкае жыццё Закона аб мовах, на момант праверкі адсутнічаў дэталёвы план яго-нага ажыццяўлення. А БДУ, як-ніяк — галоўная ВНУ рэспублікі. Гэта прэстыж, узровень. Калі ж ён недастаткова сябе праяўляе, дык не трэба забываць: на яго глядзяць усе астатнія.

**КАР.: — Сітуацыя, такім чынам, крызісная. Што ці хто давёў універсітэт да такога стану?**

**А. Ш.:** — У цэлым сярод выкладчыцкага саставу склаўся такі агульны маральна-псіхалагічны клімат, пры якім людзі, у нейкім сэнсе нават свядомыя, не праяўляюць актыўнасці. Вось і на прайшоўшым 21 кастрычніка вучоным савеце БДУ адбываліся цікавыя рэчы. Многія члены савета, якія добра валодаюць беларускай мовай практычна выступалі супраць беларусізацыі, абгрунтоўваючы сваю пазіцыю «аб'ектыўнымі» цяжкасцямі.

Недагляд у справе беларусізацыі БДУ ёсць і з боку рэктарата. Не здымаючы віны з самога рэктара Ф. Капуцкага, але ў той жа час разумеючы, што кіруючы такой складанай і вялікай установы, як універсітэт, ён не можа паспець асабіста кантраляваць усе пытанні жыцця БДУ, трэба ўскласці большую частку віны на яго памочнікаў — прарэктараў. Напрыклад, даклад на вучоным савеце П. Брыгадзіна, прарэктара па навучанні, успрыняўся як фармальная справаздача незацікаўленага чалавека. Можа, таму на гуманітарных факультэтах, якім, здавалася б, трэба было першымі ўзяцца за справу нацыянальнага адраджэння, нічога падобнага не назіраецца, за выключэннем хіба што гістарычнага факультэта. Тут, пэўна, самы час нагадаць, што яшчэ ў лютым г. г. на сустрэчы бацькоў, дзеці якіх вучацца ў беларускамоўных класах і школах, і грамадскасці Мінска з супрацоўнікамі Міністэрства народнай адукацыі і прадстаўнікамі ВНУ беларускай сталіцы згаданы вышэй П. Брыгадзін даваў пэўныя абяцанні наконт рэалізацыі Закона аб мовах ва універсітэце. Але сітуацыя да гэтага часу не змянілася.

Варта яшчэ сказаць і пра інертнасць БДУ, які, як я лічу, не знайшоў сваё месца ў тых працэсах, што адбываюцца на Беларусі. Але ж тут працуе больш за 2 тысячы выкладчыкаў — гэта вялікі духоўны і навуковы патэнцыял рэспублікі. Ёсць і суб'ектыўны, і аб'ектыўны фактары, але ўсё-такі пераважае суб'ектыўны.

**КАР.: — Вучоны савет прайшоў. Што на ім канкрэтнага вырашылі наконт беларусізацыі БДУ?**

**А. Ш.:** — Чыста чалавечае ўражанне склалася аб вучоным савеце не вельмі добрае... Як чалавека, чыё дзіця вучыцца ў беларускамоўным класе, мяне хвалюе, ці зможа яно працягнуць нека-лі сваё навучанне ў ВНУ. Па-другое, уражанні як кіраўніка групы па праверцы выканання ва універсітэце Закона аб мовах: большасць членаў вучонага савета не мае шчырай зацікаўленасці ў беларусізацыі. У нейкай ступені іх можна зразумець — узрост, вузкая спецыялізацыя, вялікі стаж служэння навуцы на рускай мове. Але больш за ўсё мяне ўразілі студэнты, што прысутнічалі на вучоным савеце. Маладыя, прыгожыя хлопцы з прэтэнзіяй на нейкую выключнасць, мабыць, не без наяўнасці таленту, якіх цікавіла ў першую чаргу пытанне аб недаплачаных 10 рублях стыпендыі. Гэтыя ж студэнты выказвалі засцярогі, як бы не разгубіць таленты з пераходам на беларускую мову навучання. Яны не супраць беларускай мовы катэгарычна, але таксама шукаюць аб'ектыўныя фактары, якія дазволілі б адцягнуць беларусізацыю універсітэта. А гэта ж змена, выхаваная БДУ. Каго ён выхоўвае?! І тут ужо на першае месца варта паставіць нават не праблемы беларускай мовы, а пытанне, ці будуць, ці змогуць гэтыя хлопцы стаць дастойнымі грамадзянамі Беларусі?

Але як бы там ні было, а прыняты канкрэтныя рашэнні. І гэта адзінае, што абнадзейвае.

Дазволю сабе прывесці некаторыя выняткі з афіцыйнага дакумента, зацверджанага вучоным саветам 21 кастрычніка г. г., поўная назва якога «Меры па выкананні «Закона аб мовах у Беларускай ССР» і «Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР».

Цытую:

**«Стварыць у складзе навукова-метадычнага савета універсітэта секцыю па метадычным забеспячэнні пераходу да выкладання на беларускай мове. Да 1 снежня 1991 г.**

**У 1992 годзе стварыць беларускамоўныя плыні на геаграфічным, юрыдычным, фізічным, матэматычным, біялагічным, хімічным факультэтах.**

**Да 1995 года перавесці на беларускую мову выкладанне ўсіх вучэбных дысцыплін на педагагічных аддзяленнях, факультэтах журналістыкі, юрыдычным.**

**У 1991-92 навучальным годзе кафедрам беларускай мовы, літаратуры, методыкі выкладання беларускай мовы і літаратуры сумесна з кафедрамі факультэтаў распрацаваць неабходныя тэрміналагічныя руска-беларускія слоўнікі.**

**Разгледзець пытанне аб неабходнасці стварэння для вырашэння гэтых жа задач лінгвістычнай лабараторыі пры філалагічным факультэце.**

**Да 15 лістапада 1991 г. распрацаваць праграму выдання на беларускай мове падручнікаў, вучэбна-метадычных дапаможнікаў.**

**З 1 студзеня 1992 г. перавесці справаводства на беларускую мову.**

**З 1992 н. г. увесці курсавы экзамен на валоданне беларускай мовай на ўсіх педагагічных аддзяленнях.**

**Распрацаваць план перападрыхтоўкі выкладчыкаў з мэтай пераходу іх на выкладанне сваіх дысцыплін на беларускай мове. Групы па перападрыхтоўцы стварыць з улікам стану валодання беларускай мовай. Пры атэстацыі і праходжанні па конкурсе ўлічваць валоданне беларускай мовай».**

Наколькі гэта сур'ёзныя намеры, пакажа час. Не хацелася б толькі, каб працэс беларусізацыі расцягвалі, як гуму, да бясконцасці.

**Юрась ДУБІНА.**



Беларусізацыя пачалася тут... Фота А. КЛЕШЧУКА.

# ХАЦЕЛІ Б ВЫВУЧЫЦЬ...

## Сацыёлагам адказваюць студэнты

Беларуская служба «Грамадская думка» па просьбе «ЛіМа» правяла даследаванне сярод студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі наконт іх адносін да выкладання на беларускай мове. Было апытана 920 чалавек па выбарцы, якая прадстаўляе студэнцкую моладзь Беларусі.

Вынікі (у працэнтах) размеркаваліся наступным чынам:

**1. Ці валодаеце вы беларускай мовай?**

1. Так, добра — 32,1
2. Слаба валодаю — 53,3
3. Не валодаю — 14,6

**2. Як вы паставіліся б да пераводу выкладання ў вашым інстытуце на беларускую мову?**

1. Станоўча — 12,9
2. Станоўча, але толькі ў тым выпадку, калі гэта датычыць грамадскіх дысцыплін — 19,5
3. Хутчэй адмоўна, бо для мяне гэта звязана з пэўнымі цяжкасцямі — 31,8
4. У любым выпадку адмоўна — 35,8

**3. Калі вы недастаткова валодаеце беларускай мовай, то ці хацелі б вы яе вывучаць?**

1. Так — 38,6
2. Не — 33,5
3. Цяжка адказаць — 27,9

**4. Як вы лічыце, ці ёсць у вашай ВНУ неабходныя ўмовы для пераводу выкладання на беларускую мову?**

1. Так, ёсць усе ўмовы — 5,3
2. Ёсць не ўсе ўмовы, будуць, канечне, цяжкасці, але іх можна перадолець — 31,5
3. Неабходных умоў няма — 61,3
4. Цяжка адказаць — 1,9

**5. Калі выкладанне будуць пераводзіць на беларускую мову, то якому варыянту вы аддаяце перавагу?**

1. Перавесці на беларускую мову ўсе прадметы — 8,4
2. Фарміраваць групы студэнтаў, якія навучаюцца на беларускай і рускай мовах на добраахвотнай падставе — 51,0
3. Прадаставіць студэнтам магчымасць самім выбіраць прадметы, якія яны хацелі б вывучаць на беларускай мове — 40,6

**АД РЭДАКЦЫІ. Як бачна з вынікаў апытання, большая частка студэнтаў, якія недастаткова валодаюць мовай, хацелі б яе вывучыць, але ўмоў для гэтага ў сваіх вучэльнях не маюць. Ёсць над чым задумацца кіраўнікам ВНУ...**

**Дадамо, што ў анкеце ўдзельнічала пароўну юнакоў і дзяўчат, прадстаўнікоў розных сем'яў (у 28 працэнтаў бацькі — рабочыя, у 9 — сяляне, у 37 — служачыя і інш.).**

## Анкета «ЛіМа»

**У анкеце, распачатай аддзелам крытыкі і бібліяграфіі «ЛіМа», прынялі ўдзел Л. Галубовіч, К. Шэрман, І. Чарота. Працягваем друкаванне адказаў і запрашаем да ўдзелу ўсіх зацікаўленых.**

**1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці, пісьменніку ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку? Ці можна сёння пісаць, як раней, — як бы па інерцыі?**

**2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай масавай культуры, да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой цаной»?**

**3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рыначныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы? Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем?**

**Лідзія АРАБЕЙ**

# Мецць свой уласны погляд

1. На што абапірацца творцу? Як і ва ўсе часы — на жыццё. А прадмет даследавання — чалавек. Бо ў наш страшэнна нестабільны час больш за ўсё стабільнай застаецца чалавечая асоба са сваім космасам душы, які змяшчае дабро і зло, любоў і нянавісць, рэўнасць, каханне і смерць. Але чалавек жыве не ў пустой прасторы, а ў пэўных сацыяльных умовах, у пэўным грамадстве. Вось тут і найбольшая цяжкасць для творцы — паказаць усю праўду адносін чалавека і грамадства.

Усёй савецкай літаратуры страшэнна шкодзіла ідэалагізацыя, імкненне дагадзіць ідэі, якую спавядала кіраўніцтва краіны. Адкінуць ідэю? Наўрад ці гэта магчыма, бо пустым застаецца твор без думкі, без пэўнай філасофіі. Толькі гэта філасофія павінна быць свая, аўтарская, не ва ўгоду сённяшняму моманту. Пісьменнік павінен выпакутаваць свой, уласны погляд на жыццё, сваю філасофію як ратунак для чалавецтва.

Некалі нас вучылі, што ўсе ранейшыя філасофіі толькі тлумачылі свет, а філасофія марксізму-ленінізму паказвае, як яго перайначыць. Аказалася, што і філасофія марксізму-ленінізму свет на лепшае неператварыла, толькі нашкодзіла яго заканамернаму развіццю. Наўрад ці могуць перайначыць свет і літаратура, мастацтва, але ставіць перад сабою такую задачу, напэўна, неабходна, як ставіў яе перад сабою вялікі Леў Талстой.

Некалі Іван Паўлавіч Мележ у размовах на літаратурныя тэмы гаварыў, што ніякія пастановы, артадаксальныя крытычныя артыкулы не могуць уздзейнічаць на літаратурны працэс, ён будзе развівацца разам з грамадствам, па законах грамадства. Відаць, гэта так, пад уладу пастаноў альбо артадаксальнай крытыкі могуць падпасці толькі кан'юнктуршчыкі, над сапраўднымі пісьменнікамі яны не маюць улады, як не мелі яны ўлады над нашым Васілём Быкавым.

Кожны пісьменнік, калі ён сапраўдны пісьменнік, не можа загадаць сабе — вось раней я пісаў так, а цяпер буду пісаць інакш. Бо ён інакш пісаць не можа, не ўмее, рынак там насоўваецца альбо не рынак. Іншая справа, што цяпер ён можа пісаць больш свабодна, не азіраючыся на цэнзуру, але з сябе, як той казаў, не выскачыш.

2. Ёсць розныя чытачы. Адны шукаюць у літаратурных творах «клубнічкі», другіх вабяць дэтэктывы, трэціх — меладраматычныя сюжэты, а чацвёртыя шукаюць у літаратуры адказу на пытанне — як жыць. А ёсць катэгорыі аўтараў, якія здабываюць сабе хлеб, дагаджаючы густам іншых чытачоў. Ці вінаваціць іх за гэта? Напэўна, не трэба. У сучаснай рускай літаратуры некаторыя пісьменніцы здабылі сабе імя ў спаборніцтве — хто з іх больш бессаромна напіша пра самыя інтымныя бакі жыцця. Магчыма, доўгая забарона на пэўныя тэмы цяпер сарвала спружыну, якая іх стрымлівала, спружына адпусцілася, не вельмі клапоцячыся пра тое, ці не параніць каго-небудзь. Але ва ўсёй гэтай літаратуры трэба адрозніваць, дзе мастацтва, а дзе яно пакідае межы прыгожага пісьменства. Наўрад ці аўтар, які хоча «спадабацца чытачу любой цаной», можа захаваць сваю творчасць у межах мастацтва. А калі няма мастацтва, то няма і гаворкі пра такія творы.

Мне вельмі шкада, што адзін наш таленавіты пісьменнік, які пачынаў глыбокімі, сур'ёзнымі творамі, раптам пачаў разменьваць сябе, іменна дагаджаючы густам не вельмі сур'ёзных чытачоў. Гэты пісьменнік мог бы стварыць нешта эпахальнае, каб не спяшаўся, каб не траціў свой талент на пустое.

І глыбокую павагу выклікаюць аўтары, якія пісалі свае творы, не азіраючыся на тое, можна іх надрукаваць ці не. Мы некалькі гадоў чыталі аповесці, раманы, апавяданні, якія свядома пісаліся «ў стол». Публікацыі сваіх твораў гэтыя аўтары так і не дачакаліся. Затое мы далучыліся да сапраўднай літаратуры. Гэтыя творы пасведчылі, што не ўсіх магла зламаць таталітарная сістэма, сапраўдныя таленты ёй не падаліся.

Сітуацыя, у якой мы цяпер апынуліся, нарадзіла шмат Астапаў Бэндараў у камерцыі, народзіць іх, магчыма, і ў літаратуры, і ў выдавецкай справе. На іх у нас не хапае сваіх Ільфаў і Пятровых. Ускласці надзею хіба на Дранько-Майсюка, творчасць якога мне падабаецца.

3. Уладзімір Караткевіч некалі сказаў, што свае дэтэктыўныя раманы ён пачаў пісаць таму, што яму надакучыла чытаць: «Ганна завіхалася каля печы». Ён адчуваў неабходнасць у беларускай літаратуры новых сюжэтаў, новых формаў. І дзякуючы творам Уладзіміра Караткевіча беларуская літаратура набыла новых прыхільнікаў. Але дэтэктыўныя раманы Караткевіча будаваліся на нацыянальным матэрыяле, з глыбокім веданнем гісторыі Беларусі. І мне здаецца, што новыя формы ў беларускай літаратуры могуць мець поспех толькі тады, калі ў іх будзе выкарыстаны нацыянальны матэрыял, калі яны будуць напоўнены нацыянальным зместам.

А як нам вырашаць чытацкія і моўныя праблемы, то гэта ўжо праблема з праблем і стаяць яна павінна на першым месцы. Баюся, што ніякія анкеты не знойдуць адказу на гэта пытанне, пакуль яно не стане прадметам дзяржаўнага клопату, і не фармальна, а па сутнасці. Не магу стрымаць абурэння — як магло так здарыцца, што дарослыя дзядзі і цёці абакралі дзяцей, адабралі ў іх «Вясёлку»? Няма паперы... Ды зірніце вы ў любы кіёск, колькі там газет, часопісаў невядома для каго і невядома кім выдадзеных! На іх ёсць папера, а на «Вясёлку» няма, рэдакцыя павінна жабраваць, каб выдаць чарговы нумар. Куды глядзіць Саюз пісьменнікаў, куды глядзіць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь? Калі з маленства дзеці не будуць чуць роднага слова, то надалей яно зробіцца для іх зусім чужое, як для тых вучняў, з якімі я нядаўна сустракалася.

Не так даўно мяне запрасілі ў бібліятэку імя Цёткі, каб я расказала чытачам пра паэтэсу, імя якой носіць бібліятэка. На сустрэчу са мною прыйшлі вучні дзесятых класаў адной са школ. Я ім расказвала пра жыццё і творчасць Цёткі, пра яе грамадскую дзейнасць, пра тое, як імкнулася яна абудзіць нацыянальную свядомасць беларусаў. А калі ў канцы спыталася, ці ёсць пытанні, то першае пытанне задала настаўніца рускай мовы:

— Скажите, пожалуйста, а почему наших учеников при поступлении в вузы заставляют сдавать белорусский язык?

А потым пайшлі пытанні і ад вучняў:

— Почему нас заставляют изучать белорусский язык?

Вось і думай, як іх сёння захвоціць да чытання беларускіх твораў, якімі формамі і знаходкамі, моднымі ці не моднымі.

Не думаю, што могуць існаваць нейкія спецыфічныя «рыначныя» густы. Увесь цывілізаваны свет жыве пры рыначнай эканоміцы, і жывуць, твораць там пісьменнікі, розныя па поглядах і па таленту. І кожны піша ў меру свайго таленту і згодна свайму погляду на жыццё.

У нас, на вялікі жаль, да ўсіх творчых праблем дадаецца вельмі прыкрая — адносіны грамадзян нашай рэспублікі да сваёй мовы. Вельмі мала ў нас чытачоў, прыхільнікаў беларускай літаратуры, і каб ва ўмовах рынку яна не загінула, без дзяржаўнай падтрымкі, без спонсараў і мецэнатаў нам не абысціся.

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

# Беларускай маскультуры не прадбачыцца

1. Паспрабую адказаць таксама пытаннямі: «А на што абапіраўся пісьменнік М. Булгакаў, пішучы ў часы куды горшыя за сённяшнія свайго «Майстра...»? Няўжо ён наіўна спадзяваўся, што пасля забароны «Сабачага сэрца», п'есаў «Бег» і «Барвовы востраў» у канцы трыццатых гадоў, ягоны раман будзе надрукаваны і прынясе яму грошы, славу?.. Чаму, калі яго справы — і літаратурныя, і матэрыяльныя — былі ў катастрафічным стане, ён адмаўляецца ад парад Сталіна, які «нічога не меў бы супраць пастаноўкі «Бега», калі б Булгакаў дапісаў да сваіх васьмі сноў яшчэ адзін ці два (гэта недзе тры старонкі! — **А. Ф.**), дзе паказаў бы ўнутраныя прычыны грамадзянскай вайны ў СССР».

Адказ, відаць, толькі адзін. Ва **ўсіх** умовах — ці насоўвання, ці адсоўвання рынку — сапраўдны пісьменнік, які верыць у сілу Слова, будзе абапірацца на цвярозасць, будзе аддзяляць хлусню ад праўды, прыме за арыенцір не чарговыя надзённыя заказы — хай то будуць самыя камуністычныя ці тройчы рыначныя, — а законы, пісаныя Тым, дзякуючы Каму існуем і мы самі, і нашая літаратура, і ўсё на свеце.

У звязку з гэтым яшчэ цікавыя, на маю думку, пытанні (адказу на іх я не ведаю): чаму сапраўдная, моцная літаратура ствараецца, як правіла, пры дэспатычнай уладзе і моцнай цэнзуры? Увогуле, цэнзура для літаратуры што? Толькі душыцель? Ці чым мацней душыць, тым прымушае і больш актыўна, па-расейску кажучы, «изощренно», супраціўляцца, прыдумваць новыя стылі, вобразы, формы? Альбо такое — Беларусь будзе дзяржаваю, так? З войскам, з усімі інстытутамі ўлады — адпаведна, і з дзяржаўнай літаратураю, цэнзураю? На якія прынцыпы будзе абапірацца гэтая цэнзура?..

Адказаў, паўтару, не ведаю.

2. У часопісе «Беларусь» 1991 г. № 3, быў надрукаваны артыкул С. Кавалёва «Пачвара ў рэліктавым лесе» — якраз на тэму беларускай маскультуры. Гэты артыкул настолькі сугучны маім думкам, што я баюся спакусы пераказаць яго ўвесь, толькі сваімі словамі. Таму коратка: беларускай, я б лепш сказаў — беларускамоўнай, маскультуры ў бліжэйшым будучым не прадбачыцца. Яна нерэнтабельная і паглынецца расейскай у імгненне вока. Што цяпер паспяхова і робіцца. А ўвогуле, цытуючы таго ж Кавалёва, «...маскультура ніводнага чалавека ніколі яшчэ да сапраўднае культуры не далучыла: ні да сусветнай, ні да нацыянальнай».

Жадаць спадабацца чытачу можна, нават і «любой цаною», ды жаданне гэтае — бясплоднае: усім дагадзіць проста немагчыма. Тут мне імпануе Бунін з яго: «Я не чырвонец, каб усім падабацца».

3. Цвёрда перакананы, што сілком у літаратуры нічога людскага зрабіць немагчыма. І самая залатая форма не дапаможа. Помню, калі яшчэ збіраліся «Тутэйшыя», быў кінуты кліч: «Пісаць усім дэтэктывы!» Што з гэтага атрымалася, вядома — ніводнага больш менш вартага ўвагі твора.

Наконт «моднай» і ўвогуле формы... Мне здаецца, што сапраўдны пісьменнік якраз менш за ўсё **свядома** дбае пра форму, — проста піша, як Бог на душу паклаў, і ў выніку форма, нечаканая і свежая, з'яўляецца сама сабою.

За ўсе вякі існавання літаратуры сапраўдны мастацкі твор узнікаў як **альтэрнатыва** густам большасці, «у піку» гэтым густам. Улічвалі ж густы, выконвалі заказы не мастакі, а г. зв. літаратурныя «закройшчыкі». Бывала, што хваля вядомасці ўздымала іх досыць высока, але для таго толькі, каб у наступны момант безнадзейна пахаваць.

Разам з тым нельга не бачыць, што ў цяперашняй беларускай нашай літаратуры, акрамя хіба што «еўрапеізацыі», чаго не папытайся — нічога няма. Няма цікавай фантастыкі, няма прыгодніцкай, дэтэктыўнай аповесці і, што самае крыўднае, няма сатыры і гумару. Зразумела, што гаворка ідзе пра беларускамоўнае. Як ні дзіўна, у нас слаба распрацаваны нават нармальны псіхалагічны рэалізм (сацрэалізму і распаўсюджанага апошнім часам антысацрэалізму гэтае выказванне не тычыцца).

Вось гэтыя ўсе жанры пакуль чакаюць сваіх пісьменнікаў.

---

Пад гэтым небам ёсць два светы, два космасы, дзве аўтаномныя рэальнасці: тая, якую мы ўспрымаем органамі пачуццяў, і тая, што ў нас; яна завецца чалавечай душою. Каторы са светаў разнастайнейшы і багацейшы? На пытанне няма адказу, хай яно застанецца рытарычнай фігурай.

А мы звернемся да паэзіі — да віду мастацтва, што дазваляе душы выяўляцца найпаўней. У гэтым сэнсе творцы — шчаслівыя людзі. Было б што выяўляць...

Увогуле паэтаў можна ўмоўна падзяліць на дзве катэгорыі: у творчасці адных пераважае эмпірычны, апісальны пачатак, другія ж арыентуюцца ў асноўным на субстанцыю душы і на аснове двух светаў ствараюць трэці — паэтычны. Таіса Бондар, відавочна, адносіцца да апошніх, што пацвердзіла яе новая паэтычная кніга «Хачу назваць цябе каханым».

Ніякі іншы стан не вызначаецца такім букетам эмоцый, як каханне. Яно, як пісаў А. Адамовіч у «Апошняй пастаралі», у чалавеку выспявае і абрыньваецца звычайна на таго, хто трапіўся на шляху. Тэрміны выспявання строга індывідуальныя. У некага за жыццё саспее ўсяго адно — затое вялікае — каханне, у другога — дзесяць меншых (не блытаць з блудам!). А букет усё той жа — непаўторны, і гэтак жа адчувальна баліць у грудзях, калі немагчыма быць шчаслівымі, г. зн. — быць разам.

Боль — дамінанта ў любоўным цыкле Т. Бондар, які і склаў цэлую, цэласную кнігу.

**Сады лятункаў...**  
**Колькі іх згарэла**  
**З карэннем і да тла ў маёй душы!**  
**Іх прах, іх попел,**  
**Мёртвы, пачарнелы,**  
**Сляпіў мяне, святло вакол тушыў.**

Таіса Бондар. «Хачу назваць цябе каханым». Вершы, лісты розных гадоў. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

---

Найперш — пра «Полымя», а ў ім — пра нізку вершаў Г. Бураўкіна. Ён і раней не надта часта друкаваўся, а тым больш цяпер, калі «служыць» гэтак далёка ад роднага дому. Таму, думаецца, з'яўленне старонак новай паэтавай кнігі «Узмах крыла» — сапраўдны, як кажуць, падарунак прыхільнікам таленту Г. Бураўкіна. Вершы, відавочна, напісаны там, у ЗША, але, як відаць з публікацыі, аўтар іх кожным радком сваім з Бацькаўшчынай. У іх — турботны роздум аб сучаснасці: «Адгудуць гады перабудовы, адлятаць расчараванняў дні. І, калі не скруцяць нам галовы, мы яшчэ збяжымся пры агні» ці: «Хоць ты ў Антарктыку бяжы, калі па ўсім вясновым краі ідуць кіслотныя дажджы». І, вядома ж, пра Адраджэнне, сведкамі і актыўнымі ўдзельнікамі якога мы з'яўляемся. І пра гэта Г. Бураўкін піша «без крайнасцяў», цвяроза. Славячы сваё, крэўнае, шануе і чужое, не адбірае права ў іншых мецць таксама сваё крэўнае:

**Я слаўлю мову,**  
**Што аднання дар**  
**Дала і акадэміку, і цеслю.**  
**І ў думках нават я не перакрэслю**  
**Чужую споведзь і чужую песню,**  
**Якія зразумецць мне лёс не даў.**

Як і раней, Г. Бураўкін не ўсёдаравальны (прыгадайма яго ранейшыя творы, яго ці не ўсе кнігі), асабліва калі справа тычыцца абароны сваёй чалавечай і мастакоўскай годнасці, сваіх меркаванняў, калі знаходзяцца ахвочыя за перакананасць «біць». Пра гэта красамоўна сведчыць верш, прысвечаны «зацятым крытыкам»: «Зайздросьце, любыя, зайздросьце, што ў гэты невясёлы час я прыязджаю толькі ў госці — і, зразумела, не да вас, — што ў мітынговай калатнечы я дараванняў не прашу і маю гонар чалавечы і незламаную душу, што мілай бацькаўшчыны справа дае мне ра-

# «І КРЫЎДЫ ЎСЕ ПЯШЧОТАЙ ЗАГАІЦЬ...»

Жыццё — гэта бяссонная пагоня за тым, «што мінула, міне», гэта плач памяці, якую нічым нельга суцешыць, нават хлуснёю самой сабе, гэта сугучча двух сэрцаў, што «слухаюць музыку неба». Калі ж сугучча парушана, абарвана, то пачынае здавацца, што не толькі маладосць — «жыццё прамінула». Ну, не прамінула, дык заняпала, невылечна захварэла, адно і застаецца, што «доўга і ўпарта» жыць. Ды лірычная гераіня Т. Бондар не схільна пакорліва несці свой цяжкі крыж: падчас яна зрываецца на крык, на праклён у адрас ненавіснай жаночай долі. Зрэшты, тут кляні — не кляні, а боль даводзіцца «зглынуць»... А думкі ўсё чарней і беспрасветней («сцюдзёны вецер адпяе мяне»), усё мацней адчуванне віны і незваротнасці страты.

У болю мноства адценняў, ствараецца нават ураженне, што паэтка трошкі дэманструе яго. «Якая слодыч у пакуце!» — прызнаецца яна. Ды і ці толькі яна? Я сама, помніцца, пісала (даруйце за самацытату): «Прачніся, боль, салодкі, як кананне бязгрэшнага...» Калі ўжо просяць, каб прыйшоў, то як не ўсцешыцца, калі прыйдзе? Адсюль — насуперак журбе — і разуменне:

**Жыву табой. І цэлы свет**
**Маім слязам цяпер**
**зайздросціць.**

У самазабыцці, у апафеозе свайго балючага спеву паэтка амаль не заўважае акаляючага свету, яна засяроджана на сабе і калі і ўспрымае што навокал, дык толькі як арэол, аздобу яе пачуццям. Птахі (часцей галубы)... Нябёсы... Лета... Сцежкі... Зоры... Дождж... Вецер... Цішыня... Возера... Святло... Гэтыя нешматлікія канкрэтныя назоўнікі ў першым раздзеле кнігі я адшукала з цяжкасцю. Асноўны лексічны запас Таісы Бондар спрэс абстрактны, адцягнены, адно і прыдатны для выяўлення зменлівых станаў душы і разваг пра жыццё і час. І нельга сказаць, што яе слоўнік бедны. Пры эканоміі выяўленчых сродкаў дасягаецца вялікая ступень экспрэсіўнасці. Аднак верш перацякае ў верш неяк вельмі ж лёгка. З іх пры жаданні можна складаць цэлыя лірычныя паэмы, як гэта робіць, напрыклад, В. Аколава. У чым жа справа?

Уражанне аднастайнасці ўзнікае, на маю думку, не ад абмежаванасці слоўнага запасу, а ад празмернай засяроджанасці на ўласным (прыгнечаным у пэўны момант) стане, ад абсалютызацыі гэтага стану і нежаданні (ці няўменні) заўважаць іншыя аспекты быцця. Вобразна кажучы, аўтарка так высока ўзлятае над грэшнай зямлёй, над паўсядзённасцю, над побытавымі праблемамі, такімі ж вечнымі, як і пачуцці, што ёй перастае хапаць кіслароду. У разрэджаным паветры — холадна. Там ні галубы, ні жаўрукі не лятаюць.

**Клялася лёсу і клялася лёсам,**
**Што дажыву сваё, хоць**
**на крыжы,**
**Адно каб даказаць: жыццё**
**збылося...**
**Яно ж збылося, што там**
**ні кажы!**

**Кахала, не пытаючы кахання,**
**Канала—не ад болю, ад тугі,**
**Тугі нечалавечай, без**
**адхлання,**
**Калі адкрытым долам —**
**небасхіл.**

Хтосьці пісаў, што для яго свет — як акенца, у якое ён час ад часу зазірае. Т. Бондар зусім не мае патрэбы ні ў якім акенцы. Мо таму, што там адзін і той жа бязрадасны пейзаж? Мне, аднак жа, не хапае ў яе кнізе дэталяў і фарбаў, не хапае прыкмет матэрыяльнасці існавання, не хапае людзей і сацыяльнага фону. Гэткая ступень засяроджанасці на ўнутраным космасе можа быць следствам чалавечай, глыбока пeражытай адзіноты, а можа проста з'яўляцца своеасаблівым мастацкім прыёмам — неарамантызмам, ці што?

Так ці інакш — у свеце Т. Бондар толькі двое: Яна і Ён. Няма там ні ідыліі, ні нават раўнавагі, ёсць каханне, якому не суджана збыцца. Пачуццё ў асобных вершах дасягае такога напалу, што, чытаючы, міжволі хочацца аддыхацца, перавесці дух. Перад намі, відавочна, паэзія высокага, «першага» голасу.

І пра **такую** паэзію можна сказаць, што яна не адрозніваецца ад мужчынскай?! Прынамсі, С. Дубавец у лімаўскім артыкуле (30.03.1990), абачліва не прыводзячы ні прозвішчаў, ні прыкладаў (бо стройным гмахам на пяску канкрэтыка шкодзіць), менавіта гэткі папрок кідае ў адрас «лепшай паловы» нашага пакалення. Сапраўдная паэзія ўяўляецца крытыку стыхіяй, «непрадказальнай і спантаннай». Інача́й, як паэтычны троп, «стыхію» ўспрымаць нельга. Хіба творчасць (любая) — не ўтаймаваная, не гарманізаваная стыхія? Ці ён лічыць, што стыхія — гэта манерна-прэтэнцыёзнае «О, Савелій»?

У паэзіі Т. Бондар ёсць і своеадметны характар, якога не зблытаеш з іншымі, і пэўная свабода яго выяўлення. Паэтка ў апошнія гады прыкметна сцішыла, утаймавала напор эмоцый, чым пазбавілася ад многіх уласцівых ёй раней недахопаў. Радок стаў празрыстым, выверaным, досыць стрыманым — у межах выбранай стылістыкі. Сустракаюцца ўзоры добрай філасофскай лірыкі.

**Нас вабіць час —нас забівае**
**час...**
**Мы ж цешымся спадзеўкамі**
**на вечнасць**
**У свеце, дзе любая**
**недарэчнасць,**
**Разросшыся, засведчыць**
**супраць нас.**

Белетрыстычны вопыт апошніх гадоў дазволіў Т. Бондар звярнуцца і да такога жанру, як эпісталярны. Празаічныя «Лісты наўздагон» удала разбіваюць крыху манатонную вершаваную плынь (рытмічна манатонную, у тым ліку) і надаюць кнізе пэўную завершанасць.

У лістах аўтапартрэт гераіні дапаўняецца новымі штрыхамі: «Ведаеш, у мяне надараюцца хвіліны, калі я адчуваю, што магу —усё. Усё, чаго б ні захацела. Усё, за што б ні ўзялася. Гардыня гэта ці залішняя самаўпэўненасць, але адчуванне вельмі моцнае. Хоць і саступае ўрэшце чарговым сумненням, і — зноў я растурзана, разадрана, падзелена на некалькіх (нярэдка — на вялікае мноства) жанчын, у кожнай з якіх свой выраз твару, свая ўсмешка, свае думкі, свой клопат».

Цікавае назіранне, ці не так? Тым больш, што ў паэзіі перад намі ўзнікае вельмі цэльны вобраз, без усялякай дваістасці.

Гэтыя лісты — дыялог і маналог адначасна, спроба дастукацца, дакрычацца да чужой зачыненай душы. Тут, хоць і не часта, ёсць выхады на сацыяльную, літаратурную рэальнасць, ёсць роздум пра наша саракагадовае пакаленне, якое і збылося, і нікога ў літаратуры локцямі не піхала. Тут ёсць боль не толькі за сябе, але і за тых людзей (жанок), што працуюць у невыносных умовах, не маючы ні часу, ні ахвоты зазіраць у сваю душу— каб убачыць «і яе жабрацкае становішча, і яе незапатрабаваныя дасюль, пажухлыя ад пылу скарбы: дабрыню, пяшчоту, міласэрнасць».

Аўтарка шмат разважае аб прыродзе і сутнасці духоўнасці, аб тым, як няпроста сумяшчаць каханне і абавязак. З бясконцых балесных зваротаў да каханага вымалёўваецца і ягоны вобраз— у значнай меры ідэалізаваны, нават прыдуманы, вобраз чалавека, якога жыццё нясе іншым руслам і ў іншых водах. Каханне на адлегласці — увогуле цікавы прадмет для творчага даследавання. У ім шмат экзальтаванасці, ды не менш і сапраўднага драматызму. «О, тыя, хто любіў, заўсёды караліся больш жорстка, чымся распусніцы, — як жа, замах на боскае!»

Горыч, самаіронія, дакор, надзея, мальба... Адценняў пачуцця ў лістах значна больш, чым у вершах. І як лагічны працяг — заключная вершаваная частка, дзе страсць як бы прытушана, прысыпана попелам пеpажытага, дзе зрок ужо адрознівае і начны калодзеж, і блакітныя званіцы, і гульню аблокаў, і сонныя гарадскія вуліцы... Так звычайна глядзіш на свет, калі ачуняеш ад доўгай, пакутлівай хваробы.

**...І няма каму перадаверыць**
**Сцежкі, неба, гнёзды**
**галубоў...**
**Мы з табой адно цяпер,**
**любоў:**
**Хто вышыні нашы будзе**
**мераць?**

На заканчэнне зазначу, што кампазіцыя кнігі «Хачу назваць цябе каханым» прадуманая і дасканалая. Годнасцю сталасці пазначана большасць змешчаных тут вершаў. І як бы ні здавалася лірычнай гераіні, што яна «ўсё можа», а найбольш прываблівае ў ёй іншае: «Людзі, я — ваша. Я гэткая ж кволая...».

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

**ЧАСОПІСЫ: КАСТРЫЧНІЦКІЯ НУМАРЫ**

# ПАМЯЦЬ І ПРАЎДА—АДНО

...дасць і спакой (хаця вам гэта нецікава ў вашай лютасці сляпой)».

І па-ранейшаму Г. Бураўкін застаецца адным з самых праніклівых і шчырых лірыкаў. Дзеля падмацавання гэтай думкі спашлюся на адзін прыклад, надзвычай, мне здаецца, красамоўны: «Ноч над лугамі, расою намоклымі, хмаркі рассоўвае. Зноў і на сэрцы маім, і за вокнамі— ціша бяссонная. Нейкая птушка ніяк не ўгамоніцца, пырхае, ціўкае. Можа, і ў птушкі старая бяссонніца, роспачнасць ціхая». Таленавіта напісана: прасветлена, засяроджана, тужліва.

Не скажу, каб іншыя паэтычныя падборкі не ўражвалі (В. Зуёнка — у «Беларусі», В. Макарэвіча, К. Камейшы, В. Жуковіча — у «Маладосці», Я. Хвалея, Я. Малеца — у тым жа «Полымі»), але бураўкінская болей кладзецца да сэрца. Мо, як казаў ужо, па той прычыне, што не так часта, як таго хацелася б, выходзіць Г. Бураўкін на сустрэчу з чытачом. Магчыма. У такім разе гэта толькі на карысць і паэту, і нам, ягоным чытачам.

Высока ацэньваючы паэтычныя старонкі кастрычніка, асмелюся ўсё ж сказаць, што месяц найбольш багаты на празаічныя набыткі. У «Полымі» — пачатак публікацыі рамана А. Асіпенкі «Лабірынты страху». Апошнім часам пісьменнік пільна прыглядаецца да інтэлігенцыі, імкнучыся памастацку глыбока асэнсаваць яе месца ў жыцці грамадства. Не адыходзіць ад гэтага А. Асіпенка і ў новым творы. Перад намі (а гэта відаць і з першых раздзелаў) па сутнасці біяграфія пакалення, да якога належыць пісьменнік. Нечаканасць жа рамана ў тым, што галоўны герой яго — славуты літаратар, вядомы грамадскі дзеяч Серафім Недасейка. Магчыма, сяму-таму ў гэтым вобразе пасобныя штрышкі пададуцца знаёмымі. Толькі, — ці трэба шукаць прататыпаў, займацца падобным «вывуджваннем»? Не забудзем жа — напісаны мастацкі твор.

Некалькі слоў пра сюжэт рамана. Акрамя Недасейкі, у ім прываблівае вобраз вучонага-атамшчыка Алега Максімава, які трапіў у няміласць улад. І Недасейка, і Максімаў адныммі з першых даведваюцца пра чарнобыльскую катастрофу. Кідае А. Асіпенка позірк і ў мінулае, калі дакладней — у трыццатыя гады. Каларытным мае быць вобраз айчыма Недасейкі энкавэдзіста Марка Удоева — чалавека недалёкага, абмежаванага, жорсткага. Як заўсёды, пісьменнік умее будаваць сюжэт. Раман чытаецца з неаслабнай цікавасцю, з нецярпеннем сочыш за далейшым лёсам герояў.

Тэма сучаснасці— цэнтральная ў творчасці У. Рубанава. Маленькая аповесць «Распусная» ў «Маладосці» — гэта лёс дваццацігадовай дзяўчыны, так сказаць, лёгкіх паводзін. Аксана з тых, каму ўжо «абрыдлі мужчыны і абрыдла гэтае жыццё, у якім пануе хлусня і двурушніцтва». Герой аповесці Пятро Мяткевіч, які выпадкова пазнаёміўся з «распуснай» у аўтобусе, калі ёй стала блага, хоць неяк спрабуе «сагрэць Аксаніну душу». Турбуецца, каб уладкаваць яе на ананімнае лячэнне, падтрымлівае і словам, і... Аповесць чытаецца, яна з тых твораў, якія не пройдуць міма позірку чытача.

Не праміне чытач і аповесць Я. Хвалея «Прынцэса «Жалезная Дзева» (таксама ў «Маладосці»). Пачатак твора такі: «У дзевятым класе школы №... адбылося надзвычайнае здарэнне, якое ўскалыхнула ледзь не ўвесь горад: Вераніка Рагозіна, выдатніца, была знойдзена мёртвая, звязаная, з кляпам у роце...» Два такія творы ў адным нумары? Ці не за чытача змагаліся маладосцеўцы на завяршэнні падпісной кампаніі? Хай і так, але з'яўленне твораў, якіх не вельмі даўно ў маладзёжны часопіс наўрад ці пусцілі б, варта вітаць.

Сярод дэбютантаў «Маладосці» — Б. Пятровіч, які выступае з «паўфантастычнай гісторыяй» «Не пытайцеся, што будзе заўтра» і апавяданнем «Русалка». Першы твор сюжэтна нечаканы, па-свойму займальны, другі прыцягвае моцнай повяззю з народнымі вытокамі, трывалым маральным грунтам. Як у У. Рубанава і Я. Хвалея, тут таксама роздум над маральнымі крытэрыямі, якімі кіруецца сучасная моладзь.

Проза, у тым ліку і маладая, шукае свае шляхі, выходзіць з кола традыцыйных і ў нечым абмежаваных\ тэм. Ёсць тут набыткі, ёсць і прахаднoе, выпадковае. Пра гэта разважае ў артыкуле «Слова — чалавек—прырода» (на прыкладзе твораў маладых аўтараў) В. Козіч («Полымя»). Крытыку не адмовіш у высокіх патрабаваннях, якія прад'яўляюцца да аўтараў, добрым веданні прадмета гаворкі. Але, як на маю думку, В. Козіч часам піша па прынцыпе: хваліць дык хваліць, а ганіць... Магчыма, і памыляюся, але гаворка пра першую кнігу Г. Багданавай «Папяровыя замкі» дае падставы так меркаваць. Я не пра заўвагі, выказаныя ў артыкуле, а пра тое, як мы адных празмерна ўзвышаем (хто нам даспадобы) і як іншых «ставім» на грэшную зямлю (таго, хто нечым нам не падабаецца).

«Беларусь» працягвае выпускаць тэматычныя нумары. Кастрычніцкі прысвечаны адукацыі і навуцы, якім, як сказана ў анонсе на вокладцы, «падуладны ўсе ўзросты — ад першакласніка да акадэміка». Публікацыі, а іх добры дзесятак, запрашаюць да роздуму. У прыватнасці, аб тым, чаму так буксуе выкананне Закона аб мовах у Беларусі. Тут жа — апавяданні «Сняжынка ў завею» і «У кандзеі» С. Грахоўскага. Нешта і знаёмае з «лагернай» літаратуры, і адначасна сваё — выпакутаванае, пеpажытае.

І апошняе. Добра, што «Полымя» змясціла падборку Л. Шпакоўскага-Случаніна (дзесяць вершаў). Ды чамусьці ні слова пра самога аўтара. А напісаць трэба было б, напісаць праўду. Аб'ектыўнасць дык аб'ектыўнасць. А то ўжо С. Адамовіч, прадстаўляючы ў «Спадчыне» (№ 5) А. Салаўя, недвухсэнсоўна згадвае «бальшавіцкае партызанства», да якога, канечне ж, А. Салавей ніякага дачынення не меў. Думаць можна ўсяляк, а праўда ў тым, што без гэтага самага «бальшавіцкага партызанства» ці былі б мы з вамі сёння.

Азіраючыся на сваё мінулае, мы тым самым ўглядаемся і ў будучыню. Якімі ўвойдзем у яе? З якім маральным багажом? Добра сказаў пра гэта ў згаданай нізцы Г. Бураўкін:

Сіратліва не стой ля
суседскай мяжы
І не дай сваю памяць
забыць.
Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш шчасліваю быць!

Памяць і праўда — не антаганісты. Яны — узаемазвязаны!

**А. М.**

**КНІГАПІС**




Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК. Проза радасці. Вершы і паэмы. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1991.

**Паэзія Леаніда Дранько-Майсюка — адна з самых цікавых старонак у сучаснай беларускай літаратуры. У кнізе «Проза радасці» — лепшыя творы аўтара, пазначаныя пільным позіркам на з'явы рэчаіснасці. Пераклалі іх на рускую мову В. Тарас, М. Шэлехаў, І. Катляроў, Ф. Яфімаў, В. Шчадрына, Ю. Кабанкоў, В. Казакевіч, Р. Лапушын і іншыя.**



К. КАМЕЙША. Гарцунок. Вершы, казкі, загадкі. Мінск, «Юнацтва», 1991.

**Дасціпнай, захапляльнай атрымалася чарговая кніжка К. Камейшы для маленькіх. Ёсць у ёй гумар, ёсць тое, чым жывуць хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце, калі да ўсяго хочацца дайсці самому.**

**Мар'ян ДУКСА**



# З кнігі «Горн прымірэння»

●

Сцяны чатыры, шыбіна і столь —
мой мікрасвет. Сучасная пячора —
яна мне блізка й сёння, як учора.
Спыніўся тут, мне кажа Бог, і стой.
Навошта адракацца ад свайго.
Ісці на плошчу і махаць рукамі.
Аддай пад брук ты свой кішэнны камень
у тым выпадку, калі меў яго.
А гонар-злосць да ўзвышаных трыбун
што валачыць!
Стамлёны пралетарый
абсвішча, не зацвердзіць твой сцэнарый.
Адно і зможаш — збіцца у табун.
Тым скончацца памкненні ўсе твае:
за нейкі фунт паабяцанай грэчкі
ты прымеш статус маладой авечкі,
што пугу любіць — тужыць без яе.
Не, плошча ўсё ж табе не па плячы.
Як не свае — святыя запаветы
ты праз акенца ўзбуджанаму свету
з натхнёнай малітоўнасцю шапчы.

●

Я хутар помню свой пасля ўсіх дзён Пагрому...
Ні бацькі, ні цяпла, ні нават дроў сухіх.
Сяк-так я раздабыў паленцаў каля дому —
раздзьмухваю я іх і праклінаю іх.
Паленцы ж не гараць, шыпяць, нібы гадзюкі.
Няма ні смалякоў запечных, ні папер.
Бутэльку з газаю бяру нарэшце ў рукі,
ліну — і затрашчаць, я ведаю, цяпер...
Ах, лёс ты, лёс ліхі, нязменна-адмысловы,
ты любіш клопат мой балючы паўтараць.
Спрабую распаліць, нібы паленцы, словы —
кручу іх, варушу, а словы не гараць.
Узятыя з душы, прагрэтыя дыханнем,
айчынныя, свае, з бярэзнікаў, з бароў...
вось не гараць — і ўсё... Не могуць стаць адхланнем
для стомленых людзей і запаліць іх кроў.
Выходзіць, што з агнём мне не шанцуе штосьці —
не хоча палымнець наш край ад слоў маіх...
Ну чым мне іх абліць — любоўю або злосцю,
каб ім запалыхаць хоць на кароткі міг!

●

Хоць ты і ў нябёсы палез,
пакуль што і кволы і ценкі.
Чаму ж ты, айчынны мой лёс,
усюды такі маладзенькі!
З бакоў травяных да вачэй
падлеткам бяжыш неспакойным...
Чым сталасць лясная, хутчэй
прыходзілі з піламі войны.
Калі ж разгарнуцца ты мог!
(Хоць неба пакратаць павінен).
Чарговы ўзварушваю мох
і бачу адно пілавінне.
Ды будзеш да зорак бліжэць —
не возьме ніякае трасца.
Удасца табе падужэць —
і нам стаць на ногі удасца.

## БІЗНЕСМЕН

Заўважылі: яму пашанцавала.
З галечы выбраўся, нібы з патопу...
Паглядам слізгаціць паверх натоўпу,
патрэба ў вочы зазірнуць адпала.
Прыкмецілі, як ён ідзе па-панску,
іграючы нагамі — шпацыруе.
Не вопратка, а залатая збруя.
Яму усе навокал — як падпаскі.
Ён што — у ранг мо выбіўся асобны!
Парушыў мо статут рэвалюцыйны!
Скрыпіць сабе ў пантофлях камерцыйных,
як камерсант музейна-дапатопны.
Скуль браўся ён з закваскай еўрапейскай!
Што ж ён заносіць утрапенне ў масы!
Жыць не жадае, сімулянт, па Марксу,
трымаецца зусім не па-біблейску.
Пяршыць пытанне сцішанае ў горле:
яму цяпер мы не браты і сёстры!
Ну што ж, давайце кіпцюры павострым
ад злосці, што ў чарзе бакі нацёрлі.
А мо вачмі палыпаем здалёку,
зацiснем гонар свой самаахвярна.
Нашто чапаць... Ён надта папулярны.
Натоўп за ім... нібы кароль ён року.

●

Растуць два дрэўцы
кволага памеру.
Абсурд — адно з іх.
А другое — Вера.
Маладзікі
змяняюцца на поўні —
стаяць два дрэўцы
на адным узроўні.
А пойдзе Вера ўверх
на сонцавеі —
Абсурд адразу
чэзне, мізарнее.
Хай Вера шугане
на метраў сто —
Абсурд
ператвараецца ў нішто.
Не дай жа Бог
падзанядужаць Веры —
Абсурд
залапушыцца ў атмасферы.
Ён замест сонца
будзе млосна цьмець.
І застанецца —
толькі звар'яцець.

●

Не надта цешымся мы маем,
не садзім свой уласны кветнік.
А ўсё памылкі папраўляем,
што нам падкінуў папярэднік.
Мы гэта робім апантана.
Ды столькі крыўды, столькі здзеку,
дрэў столькі ўсюды наламана,
каб расцягаць —
не хопіць веку.
Мы праўду клічам галасамі
асіплымі і веру мосцім.
Ці асцярожна ходзім самі —
як проста паваліць нам штосьці.
Ці будуць на шляху абломкі
ад нашых ветразяў і лодкі!
Не абцяжарвайце патомкаў —
вы пашкадуйце іх усё-ткі.

●

Зажураны спакой паслаўшы на шчаку,
два сэрцы родны кліч у свеце не згубілі.
Вядзе дарослы сын матулю пад руку,
чый век ужо гарыць зарой на небасхіле.
Ідзе дарослы сын, а за яго спіной
шматлікія гады брыдуць, як невідзімкі.
Шлях доўгі раз'яднаў і з летам і з вясной,
пайшлі па галаве асеннія зазімкі.
Віруе маладосць і скача навакол,
праменячы па ўсіх усмешкі і лагоду.
Матуля й сын ідуць. Над імі арэол,
нябачны арэол — любоў і смутак роду.

## 24 СНЕЖНЯ

Змрокам цягучым напоўнены лес.
Горнуцца прыцемкі смоллю да вокан.
Воблакі, воблакі снежныя спрэс —
ўсе мы жыўцом заматаныя ў кокан.
Дзівам было б, каб прабіўся прамень —
хоць бы адзін прыляцеў на пацеху.
Да немагчымага сплюшчаны дзень,
нібы прыціснуты прэсам ён зверху.
Усё ж такі скіне здранцвенне з плячэй,
з раніцы доўгачакана ўсміхнецца,
будзе вылузвацца з доўгіх начэй —
заўтра ўжо, заўтра
ён з месца кранецца.
Ветліва пырсне святлом па акне,
верне вачам далягляды і зоры.
Нібы расліна, да сонца памкне —
ясна і звонка пацягнецца ўгору.

●

А людзі ўсё люляюць немаўля,
ваююць і гавораць пра надвор'е.
Не знаюць нават, што ляціць Зямля
да нейкага нябачнага сузор'я.
Набожна людзі звоняць у званы,
ды іх душа каля стала пасецца.
Зусім не хочуць зразумець яны,
што шар зямны над безданню нясецца.
Астуджаныя, лезуць у вагон
і ціснуцца да печкі, як да раю.
Ім холадна. Ды гэта не цыклон.
Касмічны вецер да касцей праймае.
Яшчэ не ўсё. Ляцець далей, далей
з вялізным грузам болю і дурноты.
Стуліцеся — і зробіцца цяплей
на чорным фоне вечнай адзіноты.

●

І не бывае дня,
каб не адведаць смагі.
Навокал таўкатня,
адны благія звягі.
Усё яшчэ пакуль,
расі сцяжынку потам.
Пакуль ты круглы нуль,
калі й што будзе — потым.
Праз дзень, праз два, праз тры,
праз тыдзень, год ці болей.
Як мак, турботы тры
з малым дамешкам болю.
Не румзай з-за жылля,
удзячны будзь прастудзе.
Усё тваё — пасля,
галоўнае — што будзе.
А што яно і дзе —
не здужыць сэнс глыбокі...
Твой яблык — упадзе,
вялікі, рудабокі.
Ён існуе — і досць,
і ён — вянец знямогі.
Не сумнявайся: ёсць!
Інакш — знямеюць ногі.
Кроў гоняць салаўі.
Жывём ці паміраем,
на самым на краі
мы трызнім, трызнім раем.



Фота В. МАІСЮКА.

На ўскраіне горада стаяў змрочны чатырохпавярховы будынак, абнесены бетоннай агароджай. Некалі па верху агароджы на ўмураваных у яе металічных штырах быў напяты калючы дрот, ля варот тупаў салдат з аўтаматам. Цяпер вароты зніклі, агароджа ў некалькіх месцах абвалілася, а замест салдата з будынка зрэдку вывальваўся Яўхімыч, драбнатвары, зарослы сівой шчацінай вартаўнік. Яўхімыч крактаў, скробся, лаяў надвор'е, махру і ўласны лёс. Затым зноў завальваўся спаць — у былой турме, дзе цяпер размясціўся склад рознага барахла, вартаўніку надта салодка спалася.

Але Яўхімыч мусіў яшчэ зарабляць на гарэлку. Ён здаваў куток на вышках мастаку Пяцеліну, які ўначы перацягаў сюды ўсе свае карціны. Нават ад сяброў Пяцелін таіўся, я даведаўся пра гэту яго новую майстэрню ў паддашку толькі таму, што падахвоціўся паклапаціцца аб карцінах, калі з Пяцеліным здарыцца што-небудзь благое. Такое жыццё... Улады робяць выгляд, што дазваляюць навуку і мастацтва, затое актыўна дзейнічаюць атрады па барацьбе з гніллю. Вось яны лёгка маглі расправіцца і з такім мастаком, як Віцька Пяцелін, і з такім літаратарам, як я.

Ніхто не павінен быў прыходзіць у майстэрню на вышках былой турмы. Але калі я прасіў Пяцеліна расказаць пра расстрэл мітынгу на ўрадавай плошчы, ён абмовіўся, што нядаўна намаляваў некалькі сцэн з таго, што адбылося на мітынгу і пасля расстрэлу. Я пачаў напрошвацца ў госці і пераканаў мастака, што трэба хоць памяць пра карціны захаваць, калі атрад па барацьбе з гніллю нападзе не на яго, а на яго майстэрню.

На вышках збірала пыл і абрастала павуціннем турэмная маёмасць: металічныя ложкі і табурэткі, брудныя шафы з негабляваных дошак. У вялікіх смярдзючых цюках ляжала рабочае адзенне былых зняволеных. Яшчэ валяліся валёнкі, алюмініевыя міскі і лыжкі.

— Вось куды цяпер загнана мастацтва, — сказаў мне Пяцелін, разжурана паскубваючы сваю невялікую мастакоўскую бародку.

Мы размаўлялі з ім пра цяжкія часы, і я разглядваў яго паддашак, адгароджаны тымі самымі негабляванымі дошкамі з разламаных шафаў, круціўся на табурэтцы, уяўляючы сябе ў становішчы зняволенага. Страхоцце. Пачварнае месца, пачварныя пахі, пачварныя думкі. Я зразумеў, чаму Пяцелін не развешваў, не расстаўляў тут свае палотны, а проста складваў іх адно на адно. Нават на мальберце нічога не было. А зрэшты, я пачаў думаць толькі пра адно: як запісаць Віцін распавяд. Ён гаварыў, я страчыў ручкай у блакноце.

— Стралялі чорнарубашачнікі, — упэўнена сцвярджаў ён. — Я ведаю, хто загадаў. Генерал-маёр... Прозвішча яго мне невядома, а твар яго я запомніў.

Пяцелін выцягнуў аднекуль кавалак загрунтаванага кардону, на якім тушшу быў намаляваны мужчына гадоў на пяцьдзесят з колкімі, зняважліва паглядаючымі на свет вачыма і цяжкім тупым падбародкам.

— Не спяшайся, — сказаў я. — Апісваю партрэт генерал-маёра, які загадаў страляць... Пяцелін сам бачыў гэтага чалавека. Нізкі лоб, нос кручкаваты, тонкія губы складзены так, нібыта чалавек бяззубы, позірк вачэй калючы і зняважлівы, цяжкі тупы падбародак... Цяпер, Віця, скажы мне дакладна, што адбывалася на плошчы за імгненне да расстрэлу.

— Нічога асаблівага. Усе стаялі... Шмат хто трымаў лозунгі. За бяз'ядзерную Беларусь, за яе суверэнітэт... Нехта казаў прамову...

— Не помніш хто?

— Не. А вось пра што прамова... Так, малады такі хлопец... Твар не запомніў, але малады. Гаварыў хлопец якраз пра адказнасць інтэлігенцыі. Маўляў, зноў на інтэлігенцыю ганенні, але яна павінна мець цярпенне і не крыўдаваць на народ... Не ўвесь народ супраць яе, гэта толькі цёмныя людзі думаюць, што можна пражыць без навукі, мастацтва...

— І ў гэты момант засвісталі кулі?

— І ў гэты момант засвісталі кулі.

— Адказ выдатны...

Зноў Пяцелін паперакладваў свае карціны і паставіў перада мной сярэдніх памераў палатно, якое ён яшчэ не зняў з падрамніка.

Адразу ўгадваўся час: толькі пачало развідніваццa. На плошчы ляжалі людзі, дзесяткі людзей. Нехта яшчэ курчыўся, нехта ўжо назаўжды знерухомеў. Знявечаны юначы твар, распоратыя кулямі грудзі дзяўчыны... Мне сталася вусцішна, я паспрабаваў глядзець на ўсё, акрамя нябожчыкаў. Бранявыя машыны

Мікалай Сердзюкоў

# ЗЗЯННЕ СМЕРЦІ

апавяданне



з кулямётамі на вежах, грузавікі... Выхлапныя газы клубіліся нібыта перадсвітальны туман. Але такі ядавіты, які задушвае чалавека. У прагалах паміж пасмамі туману блішчэў асфальт, блішчэлі плямы крыві з колкімі зорнымі водбліскамі. Трыма ручаінамі з плошчы расцякаліся спалох і тэпат, пстрыканне стрэлаў... Мне здалося, што я нават чую іх. Бранявыя машыны скіравалі на праспект, а па вуліцы, якая вяла да вакзала, раз'юшаныя чорнарубашачнікі мітусіліся, шукаючы новыя ахвяры. У зацені каля міністэрства замежных спраў і на дарозе да маста стаялі разгубленыя ад усяго, што адбылося, салдаты-чырвонапагоннікі.

— І вось яшчэ, — дастаў Пяцелін новае палатно.

Адны чорнарубашачнікі насілі трупы да грузавікоў, іншыя, адпачываючы ад «бою», проста стаялі і глядзелі. У гэтым натоўпе цікаўных забойцаў мастак заўважыў і ідыёта, і цынічнага садыста... Да дрыжання душэўнага ўдалым атрымаўся твар хлопца, які смяяўся, гледзячы на забітых. Так, яркія губы расцягнуліся ва ўсмешцы, погляд з непадробнай цікавасцю скіроўваўся туды, дзе ягоныя таварышы па службе неслі труп дзяўчыны. На яе нагах не было калготак, сукенка задралася, і хлопец пажыраў вачамі белае, яшчэ не дарэшты астылае цела.

— Ты гэта не выдумаў? — спытаўся я.

— Не, я бачыў яго. І апошняе палатно паказваю... Або хопіць?

— Паказвай... Але як, як мы здолеем паказаць твае карціны людзям?

— Пакуль што не здолеем. Магчыма, наогул ніхто іх не ўбачыць... Раней чорнарубашачнікі ўсіх нас вынішчаць. Іхнія папярэднікі хоць падзялялі навуку і мастацтва на карысныя і варожыя ім, а гэтыя нас зусім не прызнаюць.

— І атрады па барацьбе з гніллю пра тое самае крычаць. Прафесар, мастак, журналіст — усе гніль. Ну, паказвай трэцяе палатно...

Трэцяе палатно імгненна прымусіла мяне замоўкнуць. Зноў твары чорнарубашачнікаў. Не буду апісваць іх, як не буду апісваць і твары зданяў, якія луналі над чорнарубашачнікамі. Здані не былі падобныя на іхнія ахвяры, хутчэй — на іхніх бацькоў, сясцёр і братоў, дзяцей... Нібыта нармальнае чалавечае жыццё выпарвалася з чорнарубашачнікаў, паўтараючы вобразы іхніх родных. Паміж забойцамі і шматаблічным, але прывідным нармальным жыццём успыхнула асляпляльнае ззянне. Як белая бездань, як магма, якая астывае і ператвараецца ў смяротнае серабро.

— Ззянне, зла, — міжволі перайшоў я на шэпат.

— Ззянне смерці, — сказаў Пяцелін.

— Няўжо і гэта ты бачыў?

— Бачыў. Спачатку, калі далі па галаве, я страціў прытомнасць. Ачуняў — паўз мяне бег узвод чорнарубашачнікаў. У небе з'явіліся здані іхніх мацярок... Думаеш, гэта я ўбачыў таму, што страціў прытомнасць? Я не хачу спрачацца. Але менавіта так было: здані, ззянне смерці. І ведаеш, што мне ў той момант у думкі заляцела? Словы Настрадамуса, прыдворнага астролага Кацярыны Медзічы. Мабыць, я не ўсё помніў, а вось цяпер знайшоў... «Затым узнікне агромністая імперыя Анціхрыста там, адкуль калісьці прыйшоў Аціла, і новы Ксеркс сыдзе са шматлікім войскам, так што павяванне св. Духа, якое сыходзе з 48-й паралелі, выклікае перамену, выгнаўшы брыдоту запусцення, спароджаную Анціхрыстам, які аб'явіў вайну Рымскаму папе і хрысціянскай царкве, чыё (Анціхрыста) царства будзе на час і на заходзе часу. Гэта будзе папярэджана сонечным зацьменнем, больш цёмным і змрочным, як калі, за выключэннем таго, што мела месца у час смерці і пакут Ісуса Хрыста. І нейкая перамена адбудзецца ў кастрычніку, і будзе такой, што людзі падумаюць, што цяжар Зямлі страціў свой натуральны рух і што Зямля патанула дзесьці ў адвечнай цемры. Увесну будуць адзнакі, а потым вялікія перамены, звяржэнне царстваў і моцныя землятрусы. Гэта будзе адбывацца аднachасова са стварэннем новага Вавілона, нікчэмнай дачкі, якая ўзбагацілася брыдотай першай трагедыі. Ён будзе існаваць не больш, як 73 гады і 7 месяцаў».

Я здзівіўся:

— Ну і памяць у цябе, Пяцелін! Слова ў слова?

— Зараз — так, на плошчы — не. Але чаму гэта ўблыталася ў мае думкі там? Я ж чытаў прадказанні Настрадамуса аднойчы ў жыцці, вельмі даўно. Але як толькі разлілося ззянне...

— Наколькі я ведаю, астролаг апісвае тут тое, што было з намі раней, 73 гады і 7 месяцаў таму, у рэвалюцыю.

— А што цяпер, калі прайшоў гэты тэрмін? Няўжо выхад з царства Анціхрыста будзе менш страшны. Няўжо тое, што адбываецца цяпер...

— Кхе-кхе... — раптам данеслася з-за нашых плячэй.

Мы адразу, нібыта на стрэлы, павярнуліся. Ззаду стаяў Яўхімыч, бруднымі пальцамі скроб твар, увесь пакрыты зморшчынамі.

— Гэта... Чужым, значыцца, у складскіх памяшканнях ніяк нельга. Гэта, дамовы такой не было, значыцца... А пра карціну я так скажу: калі мы пры Сталіне-бацюхне розных там мастакоў вартавалі, то былі надта ўжо разумныя сярод іх, ох, былі. Але не на дабро той розум, не. Ён, для прыкладу, іншаму і наогул непатрэбны... Нават канвой разумных не паважае... Так што чужыя — нядобра!

— Не сярдуй, Яўхімыч! — кінуўся да яго Пяцелін, намацваючы ў кішэні рубель або траяк.

У рэшце рэшт ён улагодзіў і выпхнуў вартаўніка, але надалей надрывацца яму не варта было. Да таго ж, Пяцелін успомніў пра неадкладную справу:

— Мне трэба дзве карціны прадаць! Тэрмінова. Ты мяне загаварыў, даражэнькі...

З далёкага кутка ён выцягнуў укручаны ў газету рулон, надзеў на сваю пасівелую галаву мастакоўскі берэт, дакрануўся да бародкі...

— Калі жадаеш, паехалі разам. У мяне ў цэнтры горада сустрэча.

— А здзелцы мая прысутнасць не пашкодзіць?

— Нічога страшнага. Зрэшты, запішы, што я прадаю. Адна карціна называецца «Бэзавы луг», другая—«Лісце і сонца». Самае цнатлівае, каб не арыштавалі. Запішы: пейзажы Пяцеліна едуць у Амерыку.

— Больш дакладна не ведаеш?

— Не ведаю.

— Тады паедзем разам, я спытаюся ў твайго пакупніка.

І мы выбраліся на вуліцу. Раён быў рабочы, дымны, з заводаў пахла жалезнай акалінай і фармовачнай зямлёй, каля танных піўных — кіслым півам і ванітамі, а ўсё роўна гэтыя пахі здаваліся больш прыемнымі ў параўнанні з пахамі ад турэмных ватовак і валёнак. Да таго ж, мы амаль адразу ўскочылі ў тралейбус, зашыліся ў куток і замоўклі на паўгадзіны. Пагрэліся, падрамалі, адпачылі адзін ад аднаго і ад нашага вар'яцкага часу. Выйшлі з тралейбуса ўжо ў цэнтры горада.

Такім чынам... Мы ішлі па вуліцы, даволі пустэльнай у гэты восеньскі, напаўпразрысты ад імжы дзень. Здавалася, імжа нерухома вісіць у паветры... А ўчора прайшоў дождж, на маставой трымаліся лужыны, і машыны, стараючыся іх распырскаць, ніяк не маглі гэтага зрабіць. Слізгацела пад нагамі жоўтая лістота, шпурлялі на яе брудныя пыркі машыны... Мы прыціскаліся бліжэй да дамоў, дзе і лістоты нападала менш і веееры пырскаў толькі пужалі, не дацягваючыся да ног.

Зрэдку я касіў вокам на Пяцеліна, бачыў яго крыху чырвоны нос, карыя вочы, якія пасля расстрэлу на плошчы страцілі рэшткі маладога бляску. Нават блізкая магчымасць добрага заработку майго сябра не дужа радавала. Таму што галодная, сквапная да грошай маладосць ужо, на жаль, не вернецца, таму што цяперашняе жыццё наогул было супраць нас.

— Эх, як у маладосці не хапала грошай! І якія цудоўныя дні, якую слодыч абяцалі яны...

— А што грошы, — уздыхнуў Пяцелін, нібыта чытаючы мае думкі. — Можна, канечне, зарабіць. Пакідаюць людзі краіну, купляюць, вязуць з сабой карціны.

— Ім на запас замест валюты і табе карысць, — з'едліва заўважыў я.

— Менавіта так. На Захадзе наш жывапіс карыстаецца попытам. Тут яшчэ адыгрывае ролю своеасаблівая экзотыка: гэта намалявана ў той краіне, дзе шчаслівае жыццё заўсёды ўсталёўваецца рэвальверам і лагерам. І дзе мастакоў толькі лайдакі не б'юць.

Так, «надта разумным», калі пакарыстацца вызначэннем Яўхімыча, у славянскіх землях ніколі салодка не было. Калі ўжо шчаслівае жыццё ўсталёўваецца ў нас рэвальверам і лагерам, то інтэлігенцыя, якая здатна да крытычнага мыслення, або вынішчаецца, або ўтрымліваецца ў рабскім становішчы. Прычым, у адносінах да яе ўлады дзейнічаюць з асаблівай жорсткасцю.

— Глядзі, вунь усё наша мастацтва...

Мы ішлі міма выставы дасягненняў народнай гаспадаркі, Пяцелін паказваў вольнай рукой у яе бок.

— Дзе? Якое мастацтва?

— Ды вунь! Калі не ўсё мастацтва, то большая яго частка.

Я не бачыў. Шэры бетонна-шкляны куб выставы, побач яшчэ экспанаты, якія не змясціліся пад дахам: жодзінскі монстр-грузавік, гомельскі сіласаўборачны камбайн, мінскі трактар...

— Ты ў дзверы глядзі!

Нарэшце я разглядзеў, што вялізныя дзверы ў бетонна-шкляным кубе расчынены, што там корпаецца цэлы натоўп хлопцаў у спартыўных касцюмах. Нібыта экскурсія спартсменаў з'явілася на выставу, налюбавала сабе самы вялікі экспанат і цяпер, не звяртаючы ўспуджанай жанчыны-наглядчыцы, цягнула яго на двор. Да монстра-грузавіка, які з нечай дурасці ледзь не сімвалам Беларусі называўся, да камбайна і трактара.

Як ні дзіўна, з памяшкання на двор былі пракладзены рэйкі, хлопцы ў спартыўных касцюмах цягнулі па іх цялежку з вялізнай ленінскай галавой, якая раней стаяла ў цэнтры куба на пастаменце.

— Хай выцягваюць, — сказаў я. — Усё роўна з яго тэорый нічога талковага не атрымалася. Трактары кепска аруць, камбайны кепска косяць, а грузавікі псуюцца. Гэта галава сімвалізуе міфічнае насільнае шчасце, але ў рэшце рэшт на нас будзе ціснуць голад. Трэба адкінуць міфы і развіваць навуку, культуру.

— Ты нічога не разумееш, — запярэчыў Пяцелін. — Раней помнікі разбуралі таму, што ён выказваў адданасць насільным метадам, а цяпер па іншай прычыне. Ты адстаў. Галаву забіраюць якраз таму, што ён належаў да свету навукі і культуры.

Мы наблізіліся да выставы. Пяцелін усміхнуўся ўсім сваім фэйсам, які апошнім часам вельмі хутка драхлеў, усміхнуўся і крыкнуў:

— Эй, хлопцы, навошта вы яго?!!

Адзін хлопец з натоўпу павярнуўся да нас. У яго была стандартная маска спартсмена-жыццялюба або бравага сяржанта са спецслужбаў, або, што амаль тое ж самае, заўсёды самавітага лаяльнага да ўлады грамадзяніна.

— Навошта? Спытайся лепш, за што. Ён займаўся журналістыкай — адно, выступаў супраць стабільнасці рэжыму — другое...

Мы згодна заківалі галовамі, але сябры спагадлівага спартсмена ўсё роўна павярнуліся ў наш бок, глядзелі, падазрона прыжмурваючы вочы.

— Тралейбус едзе, пабеглі на прыпынак! — прапанаваў я сябру.

Пяцелін пагадзіўся, праз некалькі імгненняў лаяльныя да ўлады грамадзяне рагаталі, назіраючы наш немалады ўжо алюр.

— Іронія лёсу, — зашаптаў Пяцелін у тралейбусе. — Ленін столькі разоў насміхаўся над гнілой інтэлігенцыяй, а яны яго за інтэлігентнасць і звяргаюць... Нібыта не ён клеўмаваў індывідуалісцкія парыванні і стаяў за мерны поступ жалезных батальёнаў пралетарыяту. Вось табе вынік мернага поступу: ім усё роўна, хто і як думае, сама здольнасць думаць лічыцца гніллю.

Я змаўчаў, сочачы ў вакно за тым, як выкацілася ў шэры дзень ленінская галава... Пазней, калі Пяцелін упадзе на асфальт, а злосны лёс пырскне яму ў твар краплакам, ленінскую галаву аба'б'юць дошкамі. У гэтым своеасаблівым футарале яна будзе ляжаць каля выставы і пад дажджом, і пад снегам. Але гэта будзе потым. Пакуль што мы праехалі два прыпынкі і выйшлі на праспекце, які яшчэ меў у назве імя Леніна.

Цэнтр горада. За плячыма ў нас знаходзіўся былы архірэйскі дом, дзе цяпер кожны мог пашукаць вольных «дзяўчынак» і таннае віно, наперадзе — хлебная чарга, кіёск са стосамі газет, якія крычалі пра нашу галодную славянскую свабоду.

Пяцелін даводзіў сваё:

— Правадыры — дзевяноста працэнтаў нашага мастацтва. Цяпер іхнія скульптуры і партрэты нікому не патрэбныя, дык што ад нас застанецца? Займаліся ўдыганнем... Нават у архітэктуры, — выразна азірнуўся ён. — Зноў жа, так правадыру зажадалася. Сталінскі ампір. Якія манументальныя формы, які па-свойму вытанчаны дэкор! ...А вунь мяне кліент чакае! — узрадаваўся ён, прыкмячаючы знаёмую постаць каля мастацкага салона. — Бачыш, руку ў кішэні плашча трымае... У руцэ — тугі кашэль.

Кліент быў гарбаваты даўгатвары габрэй. Я менавіта гэтага і чакаў. За мяжу найбольш часта ад'язджалі тыя, хто меў там а каго зачапіцца: габрэі, немцы...

— Барыс Навумавіч, — назваўся ён, пазіраючы на мяне.

— Спачатку грошы. — сказаў Пяцелін. — Восемсот рублёў.

— Гэта зашмат!

— Не прыбядняйцеся! Вы ў Штатах не восемсот даляраў возьмеце, а больш. А мне прапануеце неканверціруемыя рублі... Рабіце тады самі! Я навучу! Ільняное або джутавае палатно трэба напяць на падрамнік, потым прыгатуйце грунт — клей, алей, што-небудзь яшчэ... Калі клей сталярны, то пакладзіце яго ў ваду на некалькі гадзін, хай набрыняе. Потым трэба зварыць... З напаўняльнікаў бялілы або мел... Пластыфікатар... Фарбы самастойна прыгатуеце або выкарыстаеце фабрычныя? У фабрычных якасць швах. З растваральнікаў бярыце уайт-спірыт, чысты шкіпінар з жывіцы, пінін... Ну, намаляваць — гэта дробязь, пойдзем далей. Лак ужываеце, каб падвысіць гучнасць фарбаў? Можна масцічным, акрыл-фісташкавым...

— Ведаеце, грошы таксама складана вырабіць... Ды не пра тое гаворка, я заплачу вам...

Яны прыціснуліся да паліраванага гранітнага цокаля — будынкі, узведзеныя ў стылі сталінскага ампіру, часцяком менавіта з такога цокаля пачыналіся. Крыху абапіраючыся на гэты граніт, яны лічылі і пералічвалі грошы.

— Мне ж яшчэ трэба і ў салоне заплаціць! — уздыхнуў кліент.

— Дык не плаціце! — зларадна заўсміхаўся Пяцелін. — Хай вас мытнікі без штампа за мяжу прапусцяць.

З далейшай размовы кожны чалавек зразумеў бы, у чым была іхняя камерцыя. Нягледзячы на разгул цемрашальства ў краіне, мытнікі не дазваляюць без дакументаў вывозіць мастацкія творы. А калі карціны прададзены ў мастацкім салоне (ёсць штамп), то яны не лічацца мастацкімі творамі, вязі, куды хочаш. Але ў салоне трыццаць працэнтаў грошай аграбае дзяржава... Вось і ўся камерцыя: сапраўдную цану назваць тут, на вуліцы, а ў салоне — самую маленькую, дзеля штампа. І дзяржава ашуканая.

— Дзяржава ўсё жыццё шкодзіла мне, прымушаючы маляваць правадыроў, яна імкнецца мяне забіць, а я ёй грошы? — гучна выгукнуў Пяцелін, не звяртаючы ўвагі на прахожых. — Кукіш!

— Куды паедуць карціны? — наблізіўся я да пакупніка.

(Працяг на стар. 10—11).

# НЕ АЛЬТЭРНАТЫВА, але ЧЫРВОНЫ РАДОК...

**Калі тэатральна-студыйны рух Беларусі класіфікаваць па рэчышчах, плынях ды хвалях, дык тэатр-студыя «Абзац» — ці не апошні «ўсплёск»... Нягледзячы ні на што, студыйцы (дыпламаваныя акцёры і рэжысёры, а гэта карэнным чынам адрознівае іх ад бальшыні папярэднікаў) адважыліся выйсці ў людзі (чытайце — у падземны пераход на Ленінскім праспекце) з кніжачкамі білетаў ды са спадзяваннем спраўдзіцца, сцвердзіцца, адбыцца. З кіраўнікамі тэатра-студыі «Абзац» Уладзімірам САВІЦКІМ і Аляксандрам МАРКЕВІЧАМ гутарыць наш карэспандэнт Жана ЛАШКЕВІЧ.**

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Хлопцы, вы працуеце разам, вы разам вучыліся, — яшчэ ў Мінскім інстытуце культуры (рэжысуры народнага тэатра), а потым — у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім (папрацаваўшы акцёрамі ў Бабруйску і Брэсце). А каму, цікава, належала думка наладзіць сваю тэатральную справу? Як яна ўзнікла? Ведаю, што трапіць у датацыйны дзяржаўны тэатр вам было не так цяжка...**

**У. САВІЦКІ.** Наш першы педагог, легендарны Барыс Эрын, заўсёды вучыў быць асобай, — у жыцці, у мастацтве, — уласным прыкладам. У тэатральна-мастацкі мы прыйшлі... дарослымі ўжо. Нас не трэба было школіць, выхоўваць. Пэўна, прагматычнае стаўленне да жыцця вызначала і наш падыход да мастацтва: пайсці ў пачаткоўцы? Насіць за рэжысёрам-мэтрам партфель? Мо за мэтрам Эрыным і варта было б пацягаць гэты славуты партфель, але ён, бачыце, прызвычаіўся неяк абыходзіцца.

**А. МАРКЕВІЧ.** Варта згадаць толькі, якую процьму нерваў і высілак адбірала аваloданне таямніцамі прафесіі, колькі задумак рэалізавана было са студэнтамі акцёрскага курсу... Гэтыя работы шкада было пакідаць вучэбнымі, студэнцкімі, яны вымагалі працягу. Да ўсяго, арганізацыя ўласнае справы давала магчымасць не толькі замацаваць набытае, нажытае, напрацаванае, але і даць работу людзям.

**У. САВІЦКІ.** Пад час вучобы мы папрацавалі шмат у якіх студыях; тэатральныя прапановы не сыпаліся на нас, але і не абміналі. Мы параўноўвалі. Першаю высноваю з чужой студыйнай самастойнасці сталася наступная: не трэба дзяліць уладу. Функцыі дырэктара і мастацкага кіраўніка ў нас падзелены, так бы мовіць, для подпісу на паперах (заўсёды ж трэба спаслацца на канкрэтнага чалавека). Так што кіраўніцтва «Абзацам» ажыццяўляе нібыта рэжысёрская калегія. Нас хвалявала іншае: чаму так хутка збіраліся, але яшчэ хутчэй разбягаліся шмат якія студыйныя наваўтварэнні? Першая сціплая хваля не паспела суцішыцца, як ледзь не ў кожным тэатры, ледзь не кожны самастойна мыслячы акцёр ці рэжысёр распачынаў «сваю тэатральную справу»; пры гэтым хлопцам не бракавала ні таленту, ні густу... Здавалася, Беларусь напаткае тэатральна-студыйны бум, здавалася...

**А. МАРКЕВІЧ.** А вось мы прааналізавалі сёе-тое ды высветлілі: шмат хто не здолеў адразу арганізаваць матэрыяльную частку справы. Мы, дзякуй Богу, натрапілі на чалавека, чыё захапленне тэатрам вельмі дапамагло нам перавесці дых пасля дыпломнага марафону. Ён, дырэктар Дома культуры ўпраўлення бытавога абслугоўвання Генадзь Іванавіч Латушкін, паспрыяў нам ператварыць адно нягеглае памяшканне свайго ДК ва ўтульную залу са сцэнай... Ёсць людзі, якія абавязаны дапамагаць пачаткоўцам накшталт нас (іх для гэтага ўтрымліваюць на пасадах за дзяржаўныя грошы), ды яны, на жаль, не дужа цікавіліся намі; ёсць тыя, хто проста (проста!) любіць тэатр, напрыклад, нашы спонсары з маладзёжнага вытворчага аб'яднання «Акадэмія» ці з камерцыйнага банка «Дукат». Яны не патрабуюць планаў нашай «дзейнасці», тактоўна ўнікаюць дробнага апекавання, яны, нарэшце, рызыкуюць уласнымі грашыма...

**У. САВІЦКІ.** Як бы тут не збіцца на патэтыку... Ад пачатку мы настройваліся на чорную, няўдзячную, цяжкую працу. Не хачу прыніжацца, збіваючыся штораз на гаспадарчыя праблемы, але...

**А. МАРКЕВІЧ.** Але пакуль, што тут хаваць, у нашым падыходзе да мастацтва сцэны пераважае прагматызм: навучыцца рамяству, засвоіць начаткі прафесіі, бо інстытут, мне здаецца, рыхтуе акцёраў для... студэнцкай, навучальнай сцэны... Крый Божа прынізіць значэнне інстытута, але сённяшні тэатр дыктуе: патрабуюцца спрактыкаваныя прафесійнікі (адразу!) на жорсткія ўмовы цяперашняга існавання. Вядома, можна па першым часе сабраць гледача абяцанкамі незвычайнага тэатральнага кірунку ці да т.п., але чым хутчэй з'явіцца глядач, тым хутчэй знікне. І, як правіла, назаўсёды.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Усе, так бы мовіць, параметры вашых спектакляў пралічаны: дыктуе сваё тып вашай сцэны, а таксама сённяшні кошт дэкарацый, якія ў вашым становішчы пажадана зводзіць да нуля; зірнуўшы на афішу, можна зразумець і тып драматургіі, якому вы аддаяце перавагу (з малой колькасцю дзеючых асоб, з эфектнай інтрыгай і да т.п.). Ці не занадта жорстка гэтая «форма» ўплывае на змест вашага тэатра?**

**У. САВІЦКІ.** Напраўду, мы свядома бяром у работу гэтак званую «зорную» літаратуру (драматургію); верым, што і акцёрам яна паспрые дацягнуцца да добрага ўзроўню.

**А. МАРКЕВІЧ.** Згодны, што нават маляўнічыя афішы ў пяць колераў мы не зможам мець. А вось пачаць з эстэтыкі беднага тэатра, на сцэне якога не схаваешся за крэслы ці дрэвы, навучыць акцёраў абжываць пустую прастору (амаль як у Брука), выхаваць акцёрскую фантазію такім чынам, каб яна не чакала цвялення, катурхання, прынады, рэжысёрскага вокрыку, каб яна спрацоўвала толькі ад выгляду пустой сцэны... Мы схільныя распрацоўваць канфлікт не паміж асобамі, а ўнутры іх, нас цікавіць далікатнасць і грубасць псіхалагічнага тэатра, разнастайнасць матывовак учынкаў герояў, адценні іх пачуццяў, карункавы малюнак роляў... Тое, што вымагае ювелірнай работы акцёра ды геркулесавай загартаванасці яго псіхафізічнага апарата. Глядач зрабіўся больш складаным,—не толькі за акцёраў, але і за шмат каго з герояў, якіх тузінамі прапануюць сучасныя (не адно беларускія) драматургі.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Ваш педагог па тэатральна-мастацкім інстытуце У. Забела заўважыў неяк, што вы навучыліся не навязваць спектакль акцёрам, але гадаваць яго натуральна...**

**А. МАРКЕВІЧ.** Мы вольныя ў сваім стаўленні да літаратуры, бо аддаём перавагу сачыненню спектакляў, аўтарству рэжысёра. У нашым рэпертуары цяпер тры спектаклі «паводле»: «Гульні са зданямі» паводле С. Мрожака, «Паляванне на пацукоў» паводле П. Турыні і «Ты таксама вінаваты» паводле Коба Абэ. Ёсць яшчэ колькі спектакляў у рабоце, але мы не спяшаемся з прэм'ерамі.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Вашы акцёры працуюць толькі ў тэатры-студыі «Абзац», ці практыкуюцца кантакты з самымі рознымі тэатральнымі ўстановамі?**

**У. САВІЦКІ.** На прамілы Бог, няхай толькі запрашаюць...

**А. МАРКЕВІЧ.** Мы паважаем правы асобы. Ды калі гэтая асоба спраўджвае свае правы, скажам, на тэлебачанні, дык лепей не рабіць тэатру-студыі антырэкламы.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Дарэчы, а што ў вашым мастакоўскім уяўленні значыць назва студыі—«Абзац»?**

**У. САВІЦКІ.** Не альтэрнатыву існуючым тэатральным прапановам—хутчэй імкненне не патрапіць у афіцыйна-звыклае рэчышча; хутчэй пачатак з чырвонага радка, з абзаца, гэткі паўтор добра забытага старога на свой лад... Урэшце, кожны пачатак,—заўсёды ў чымсьці паўтор.



«Ты таксама вінаваты» паводле Коба Абэ. А. Маркевіч (Мярцвяк), А. Бучацкая (Яна).

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

## «Прыгледзьцеся да Адзінцовай...»

**Заўсёды ніякавею перад паўпустою залаю. Пакутуе прафесійная годнасць. А мо не магу забыцца на паўнюткія, бітма набітыя моладдзю (!) тэатральныя залы Аўстрыі, дзе нядаўна выпускаў спектакль? Моладзь ідзе «на драму», — на мой погляд яшчэ і таму, што білеты ў оперу каштуюць дарагавата. Дзверы оперных залаў, каля якіх я калі-нікалі прахаджваўся (авохці мне, тутэйшаму рэжысёру!), адчыняла публіка заможная, веку сталага ды завельмі сталага...**

**Дома, у Мінску, прыемная неспадзяванка: канцэрт адной з маіх самых улюбёных оперных спявачак. Прыемна: кабеты бальзакаўскага ўзросту поруч з маладымі людзьмі і паненкамі!..**

**Канцэрт — свайго роду ўгодкі ўзнёслай і зямной працы опернай артысткі Інэсы Адзінцовай, шанаванне яе дваццаціпяцігадовага шчыравання на падмостках, наталенне вытанчанага густу любога опернага гурмана пад назвай «Мае любімыя арыі». Яе (і мае) улюбёныя арыі адразу дадуць уяўленне пра майстэрства выканаўцы: Арміды з «Рынальда» і Рамільды з «Ксеркса» Ф. Гендэля, Дэздэмоны з «Атэла» і Леаноры з «Трубадура» Д. Вердзі, Маргарыты з «Мефістофеля» А. Бойта, Манон з «Манон Леско» Д. Пучыні...**

**Скажу шчыра: слухаць гэтыя арыі мне даводзілася ўсё больш на дысках Джульеты Сіміянаты ды Элізабет Шварцкопф...**

**Я, на жаль, не маю права ацэньваць узровень вакальнага майстэрства спявачкі, але як рэжысёр не магу не захапіцца яе незвычайным пачуццём сцэны, адчуваннем сцэнічнай прасторы і атмасферы, рэдкай якасцю нібыта «збіраць», арганізоўваць вакол сябе прастору і ствараць атмасферу (на невялічкай сцэне касцёла святога Роха Інэса Адзінцова напару з піяністам Мікалаем Сярдобавым яшчэ раз бліскуча прадэманстравала гэта); не магу не ўхваліць яе цудоўную артыстычную форму, густ, сцэнічныя манеры... Пра манеры я б хацеў сказаць наступнае: усе. мабыць, бачылі, як спевакі закатваюць, апускаюць долу ці акругляюць вочы, сціскаюць далоні, заломваюць і працягваюць у залу рукі, рэзка паварочваюцца, сціскаючы кулакі і г. д., але ўсё гэта—без аніякай унутранай патрэбы, па-за роляй, не ствараючы вобраза. Мо без гэткіх звыкласцяў сёй-той проста не ведае, што рабіць з рукамі на сцэне? Прыгледзьцеся да Адзінцовай. Оперныя рухі-штампы яна ператварае ў свайго роду канон, перадусім спавядаючы арганічнасць і адпаведнасць задуманаму вобразу. А гэта—высокі артыстызм!**

**Рыд ТАЛІПАЎ,**
**кіраўнік тэатра-студыі,**
**рэжысёр.**

збіраюцца людзі малакультурныя. Калі хто-небудзь з іх пазнае мяне, то можа і не ўспомніць, чым адрозніваецца папярэджанне ад прысуду.

Мабыць, малакультурнымі людзьмі кіруюць адступнікі-інтэлігенты, гатовыя з'есці сваіх былых калег. Не першы раз! Рэвалюцыянеры, якія пераконваюць свет у гуманізме рэвалюцыі, не хочуць прызнаць, што гуманізм несумяшчальны са стаўкай на малакультурныя, цёмныя сілы. Як гаворыцца, добрымі намерамі забрукаваны шлях у пекла. А новыя адступнікі да былых ніколі літасці не мелі.

Новыя цяперашнія адступнікі дзейнічаюць вельмі жорстка, тактыка, якую яны выпрацавалі для атрадаў па барацьбе з гніллю, і жорсткая, і каварная. З яе дапамогай атрады апошнім часам расправляюцца са сваімі ахвярамі проста ў цэнтры горада. Тут у іх назіральнікі... Высочваюць патрэбную гнілую асобу... Непрыкметна члены атрада збіраюцца ззаду ахвяры... Сто чалавек або больш... Моўчкі... А хто і як іх адрозніць ад іншых прахожых? Формы на іх няма, знешне гэта звычайныя мужчыны і жанчыны. У цэнтры горада людзі рухаюцца бесперапынным патокам. Як быццам бы ўсё нармальна... І раптам гучыць загад! Часцяком гэта гартанны крык. Для куражу. Сотня людзей зрываецца з месца. Як статак раз'юшаных буйвалаў! Бегма... Хутчэй... Хто збіў ахвяру з ног, хто затаптаў яе? А ніхто, аднаго вінаватага няма, ёсць прахожыя, натоўп... Да адказнасці ўлады яшчэ нікога не прыцягнулі. Як і пасля расстрэлу мітынгу.

Нарэшце яны з'явіліся! Пакупнік са скруткам пад пахай нават не зірнуў на мяне, адразу скіраваў у супроцьлеглы бок, затое Пяцелін пайшоў на мяне з раскінутымі для абдымкаў рукамі.

— Жывём, даражэнькі!

У руцэ ён трымаў пачак грошай, размахваў імі. Я хацеў быў выказаць свае падазрэнні, але ў гэта імгненне нехта недалёка ад нас крыкнуў. Той самы крык: «Ай-лу!» І адразу — тупат соцень ног.

Дзіва, але я паспеў прыкмеціць ззянне над галовамі атрадаўцаў. Як белая бездань, як магма, якая астывае і ператвараецца ў смяротнае серабро. Напэўна, Пяцеліну ў час расстрэлу не здалося... У маёй памяці таксама ўсплылі словы Настрадамуса: «...Новы Ксеркс сыдзе са шматлікім войскам... Царства будзе на час і на захадзе часу...»

У наступнае імгненне Пяцелін усунуў мне ў руку грошы і моцна адштурхнуў мяне. Я адляцеў у бок, балюча ўдарыўся каленямі аб бардзюрны камень і выкаціўся на маставую. Вадзіцель аўтобуса, які ехаў на мяне, ледзь паспеў затармазіць.

Усё, канец. Пяцелін, запырсканы краплакам, ляжаў на тратуары нерухома. Я схаваў грошы ў кішэню, думаючы пра тое, што Пяцеліну ўжо не паможаш, а Яўхімыч за грошы можа аддаць яго карціны. Ззянне як бы разыходзілася ў падхмар'і, знікала... Напэўна, яно нараджаецца толькі пры вялікіх энергіях зла, напэўна, яно хутка згасае, чаго не скажаш пра само зло.

# Як дзве струны дутара...

Споўнілася 550 гадоў з дня нараджэння Алішэра Наваі, слыннага ўзбекскага паэта, які стаў нацыянальнаю святыняю ўсіх цюркскіх народаў. За сваё непрацяглае жыццё — ім пражыта 60 гадоў — Алішэр Наваі ўзгадаваў шчырым сэрцам і шчодрым талентам цэлы сад літаратурных жанраў, прыгожы і раскошны. Асноўнае месца ў гэтай мастацкай спадчыне займае славутая «Пяцерыца» з яе пяццю ёмістымі паэмамі, створанымі за два гады,— можна ўявіць тытанічную працаздольнасць паэта.

У паэме «Збянтэжанасць праведных» Алішэр Наваі сказаў сваім сучаснікам і нашчадкам пра жаданне і рашучасць праславіць цюркскую мову. У той час традыцыйнаю, агульнапрынятаю на Усходзе была персідска-таджыкская мова, якою дасканала валодаў і Наваі. Валодаў і спакойна мог да скону карыстацца ёю. Ды яму наканавана было зруйнаваць непарушную догму—паэт першы падняў прэстыж роднай яму старажытнаўзбекскае мовы, без віны вінаватае мовы продкаў. Гэта быў вялікі духоўны пераварот, роўны подзвігу. Так у лёсе паэта збылося аўтарскае прароцтва. Ён праславіў мову продкаў на ўвесь свет.

Калі я чытаў у адной з паэм Алішэра Наваі пра чатыры стыхіі — агонь, паветра, ваду і зямлю,— я міжволі падумаў, што гэтак жа, як кожная з чатырох стыхій ці, дакладней, як усе чатыры стыхіі, людзям неабходная і паэзія (назавём яе ўмоўна — пятая стыхія), а неабходная таму, што яна — носьбітка духоўнасці. Для Наваі духоўнасць была заўсёды першаснаю. Ён пакутаваў ад недасканаласці свету; мроіліся яму, мецэнату, шчырыя ўзаемаадносіны між людзьмі, справядлівы правіцель, шчаслівая краіна. У сэрцы нёс глыбокую драму, адчуваючы немагчымасць ажыццяўлення сваіх ідэалаў. Але страсна прапаведаваў філасофію духоўнага самаўдасканалення, абагаўляў хараство і сапраўднае каханне, пачуццё, якое ўзвышае чалавека, робіць высакародней душу.

У Алішэра Наваі ёсць «Скарбніца думак», збор твораў, у якім дамінуе газель. Слоўнікавыя азначэнні гэтага традыцыйнага на Усходзе і незвычайнага нам верша, нават самыя дасканалыя, не дадуць ключа да газеляў Наваі: там можна знайсці трактоўку жанру з боку формы. Маўляў, гэта від верша, у якім монарыфмай (часта з рэдыфам) спалучаецца ад трох да дваццаці бейтаў (двухрадкоўяў). Першыя два радкі рыфмуюцца між сабой, а пасля тая самая рыфма паўтараецца ў кожным цотным радку (аа, ба, ва). У апошнім бейце ўпамінаецца імя ці псеўданім аўтара.

Між тым газелі Наваі — а іх больш за 2600 — адметныя, вельмі розныя па змесце і танальнасці. Не заўсёды слова творцы адназначнае, яго слову і вобразу ўласціва «мігальнасць», а, можа, лепш будзе сказаць — «мігатлівасць». Скажам, аўтар часта ўжывае слова віно. Але яно не заўсёды павінна ўспрымацца толькі як *п'янкі напітак* — у паэзіі магчымы і віны іншыя: кахання, захаплення, даверлівасці... Яны, як і віны натуральныя, у адных выпадках прыносяць радасць, у другіх — боль і беды.

Нашаму чытачу павінны быць блізкія ідэалы Наваі-гуманіста, які праслаўляе дабро, змагаецца за волю, вернасць, шчырасць, прыгажосць. Як найвялікшае зло асуджае жорсткасць і крывадушнасць. Дакранаючыся сэрцам да спадчыны Наваі, адчуваеш, які ён сучасны. У свеце, дзе чара жыцця так доўга хілілася ў бок зла, людзі павінны ўсвядоміць: з крызісу дагэтуль не могуць выбрацца палітыка і эканоміка, бо ў загоне апынуліся культура і мараль. І ці трэба дзівіцца, што паэзіі, народжанай любоўю да чалавека, лепшых яго якасцяў, не існуе ні рэгіянальных межаў, ні старасці. Больш чым за пяць тысяч вёрстаў з паўтысячагадовай даўніны ідзе да нас паэт Наваі, каб узрушваць сваёй духоўнасцю. Як два словы прывітання «Салам алейкум!», як дзве струны дутара, гучаць суладна бейты Алішэра Наваі.

Прапаную некалькі твораў з маёй перакладной кніжкі «Алішэр Наваі. Лірыка», падрыхтаванай у «Мастацкай літаратуры» да выдання.

*Васіль* ЖУКОВІЧ.

Алішэр НАВАІ

# ГАЗЭЛІ

●

**З кім гаманіў бы я, не хоча той,— яго са мной няма.
Хто ж хоча еднасці са мной, таго ў душы маёй няма.**

**Ці радасць я знайду ў таго, хто мае выгаду з мяне!
Ў таго ж, хто ўцеху даў бы мне, цікавасці такой няма.**

**Што ж гурый, пэры баль, калі на смерць ці на жыццё маё
Там яд і чары іх вачэй,— тут, побач, дарагой няма.**

**Не рады дню і ночы я: даўно заняты быць хачу
Красой касы, касой красы,— са мной красы зямной няма.**

**Хачу, каб верхніца мая век гарцавала на гнядым
Адно па сэрцы па маім,— надзеі нат малой няма.**

**Ратуй жа сэрца ад маны, дарункаў лёсу не чакай —
Падкіне смертухны сіло,—пятлі ў яго другой няма.**

**Заззяе поўняй мілы твар — хутчэй замовіць Наваі
Каханне ад ліхіх вачэй, бо справы звыш святой няма.**

●

**Божа, мне без санцатварай хоць бяры ды памірай,—
Ты маланкай скрухі-хмары больш нікога не карай.**

**Хай бадзягам нават стану, хай пляткараць пра мяне,
Называць імя каханай анікому ты не рай.**

**Божа, мукі, што яна мне прычыніла, памнажай,
Ды, каб стала нейчым лёсам, ёй варункаў не ствараій.**

**Я загінуў ад кахання, толькі ты, сапернік мой,
Па мне плачучы ў жалобе, ці дарую, не пытай,**

**У маёй душы парадай, сябар, храму не ўзнімай,
Бо каханая душу мне зруйнавала ўжо, бадай.**

**Ах, какетка-кветка бавіць ночы з куфлем у руках.
Ранні ветрык, ёй — цвярозай! — прывітанне перадай.**

**Будаваў я шчасце стрэчы, занядбаны ж ёю стаў.
Хто хваліцца будзе доляй, Наваі, паспагадай.**

●

**Ноч расстання — ноч пытанняў, боль з тугой.
Без любімае бязмежны смутак мой.**

**Асвятлі мне цемру ночы, віначэрп,
На імгненне ты мне сэрца супакой.**

**Абярні ў маланку чары абадок,
Вісне над душою хмараў чорны рой.**

**Ноччу скрушнай свечку золаку хутчэй.
Запалі ты стогну іскраю жывой.**

**Захад сонца; рана неба ад журбы
Усё крывавіць вечароваю зарой.**

**Гэты свет не дасць збавення ад пакут,
Ты змірыся, сэрца, з роспаччу такой.**

**Дні ў разлуцы пачарнелі, Наваі,
Ноч разлукі — ноч дакукі, боль з журбой.**

●

**Радуйся, сэрца: я н а — як зара спадзявання — прыйшла!
Платай за мукі кахання, пакуты чакання прыйшла!**

**Новай душой з вандравання ўвайшла ў маё цела яна,
З вечнасці раннем, з тугою маёй развітаннем прыйшла!**

**Розум, ты сілу збяры, ты, цярпенне, нарэшце, замры:
Пэры кахання хваляю звышхвалявання прыйшла!**

**Не, я не страціў, о, сэрца— знайшоў яе,— вось навіна!
Неміласэрная любая выратаваннем прыйшла!
Неспадзявана, знянацку прыйшла, аж не веру вачам,—
Фея ці дзіва-царэўна ка мне на спатканне прыйшла!**

**Неба пачула рыданні — і смерць не забіла душу...
Райская ружа, якая ніколі не вяне,— прыйшла!**

**Музыку, слаўны музыка, давай пакажы Наваі,
Стаў, віначэрп, дзевяць чараў — царэўна кахання прыйшла!**

●

**Кветнік твой і сад сустрэчаў — о, якое хараство!
Як мяне тваё хвалюе трапяткое хараство!**

**Ад віна любві ласкавы і пяшчотна-свежы твар,
Ну, не твар — жывы пялёстак,— маладое хараство.**

**Ледзь адно спыталі вусны, як жыву — і я ўваскрэс.
Што за сіла ў вуснах мілых,— о, п'янкое хараство!**

**Гурыя ці поўня тая — хто больш вабны, не пытай,
На зямлі абагаўляю я зямное хараство.**

**Нават яркая на небе меней гожая зара,
Як любімая ў накідцы — гаваркое хараство.**

**Маладосці час на вецер не пускай. Я зразумеў:
Што юнацтва — час кахання, там — жывое хараство.**

**Хай выгодаў нехта прагне, а якраз для Наваі
Самаадрачэнне, *шчырасць — найсвятое хараство.***

●

**Не цюльпанавае поле ўсё квітнее з краю ў край —
Ад маіх гарачых стогнаў загарэўся небакрай.**

**Агнём твару людзей сутнасць, чуў, прапальвае яна,
Чуў, ды й сам я загарэўся, што рабіць цяпер, парай.**

**Войска ўсё майго цярпення паліць мілы твар да тла,
*Караван згарае гэты цалкам, як ні наракай.***

**Мне ў душу ўпіліся стрэлы, любая,— і з той пары
Тлеюць вочы, тлее цела,— ўвесь я — што сухі курай.**

**Можа, ёсць тут здрада неба,— як віхор, ляціць пажар.
Кіпарысу маёй мроі ты, пажар, не забірай.**

**О, няўжо адкрыла твар ты, каб народ свой спапяліць
І мяне з усімі разам!! Ты адказ на гэта дай.**

**Наваі, хай нехта кажа: загарэліся лясы,
Ты не вер, бо я згараю, гэта я ў пакутах, знай.**

●

**Ты не служыў людзям старым з юнацкае пары,
Дык, стаўшы старцам, галавы юнцам хоць не дуры.**

**Мець хочаш старасць добрую — старых сам паважай,
Пры маладых на старасці ты глупства не твары.**

**Пачырванее ад віна стары — падобны ён
На ведзьму, чый румянамі старэчы твар гарыць.**

**Убранне пышнае стары нацягне на сябе —
Дык лепш ужо кіёк сухі ты ў кветкі прыбяры.**

**Хто ачарняе сівізну, каб лепей выглядаць,
З *таго ўсе колеры смяюцца, што тварэц стварыў.***

**Старому памяркоўна жыць — вось правіла, дэвіз,
Раўненне старца на хлапца — прыстойнасці падрыў.**

**Калі ў юнацкія гады быў *паслухмяны* ты,
То прыклад добры заўсягды з сябе — таго! — бяры.**

**Да грамады шчаслівае прылучан той юнак,
Што ў сажу не замурзаўся, ніколі не хітрыў.**

**Ты ж да распусніцы, стары, падобны хоць не будзь,
Няхай крыўляецца яна, ты ў шале не гары.**

**Бяры духоўныя дары, дарогу ў храм вядзі,
Юнак ты, дружа, ці стары — дабро людзям дары.**

**Шкада, пражыў сваё жыццё ў заганах Наваі,
Хоць дабрадзеем між людзей праславіўся стары.**

Ганарар за публікацыю прашу пералічыць у фонд Караткевіча на рахунак Беллітфонду 700112.

**Перакладчык.**

# З КІМ ВЫ, СПАДАРЫ ІНТЭЛІГЕНТЫ?

У дыялогу Васіля Быкава і народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Яўгена Новікава, які пад загалоўкам «На што мы здольныя?» быў надрукаваны ў адным з апошніх нумароў «ЛіМа», наш слынны пісьменнік (ужо не першы раз) падкрэслівае, што ў нас няма нацыянальнай інтэлігенцыі «ў класічным разуменні, накшталт рускай інтэлігенцыі канца мінулага стагоддзя, або нашай народнай інтэлігенцыі 20-х гадоў». Вельмі правільная заўвага.

Нехта спытае — чаго гэта старшыня *Сялянскай партыі Беларусі загаварыў* пра інтэлігенцыю, што — у яго іншых клопатаў няма? Ёсць і іншыя, вядома, але і гэты не апошні. Справа ў тым, што *наша партыя, а яна ставіць перад сабой* мэту адраджэння беларускага сялянства, амаль не адчувае падтрымкі з боку беларускай інтэлігенцыі — нават пісьменнікаў, *якія прысвяцілі сваю* творчасць вясковай тэме, не кажучы ўжо пра іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Ці мо ёй цяжка адмовіцца ад звычных планаў і турбот, якія вельмі часта знаходзіліся раней у рэчышчы афіцыйнай ідэалогіі, накіраванай, у тым ліку, і на ўмацаванне сацыялістычнага ладу на вёсцы?

Нядаўна мне давялося пачуць з вуснаў аднаго досыць вядомага пісьменніка такую фразу: «Я прынцыпова не ўступаю ні ў якую партыю». Як гэта зразумець? Нейтралітэт? Гэта ў наш час, калі сілы прагрэсу вымушаны весці цяжкую, бескампрамісную барацьбу за дэмакратычнае пераўтварэнне грамадства?

Я амаль не ведаю выпадкаў, калі б наша інтэлігенцыя, у тым ліку і тая, што працуе ў вёсцы, дзейсна падтрымала прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі Закон аб прыватнай уласнасці на зямлю. І гэта адна з прычын таго, што закон як след «не працуе». Па-ранейшаму аграрны сектар эканомікі застаецца ў каманднa-адміністрацыйнай сістэме, якая і не думае здаваць свае пазіцыі. Кіраўнікі яе, на словах пагаджаючыся з прынцыпам шматукладнасці сельскай гаспадаркі, на справе па-ранейшаму робяць стаўку на калгасна-саўгасны лад.

Колькі размоў (ужо ў перабудовачныя *гады) вялося ў верхніх эшалонах улады* аб скарачэнні адміністрацыйнага складу кіравання. А што змянілася? Вось толькі адзін прыклад. Сёння ў сельскай гаспадарцы Беларусі працуе 150 тысяч механізатараў і 142 тысячы... работнікаў апарату кіравання. Нонсенс? Але ж гэта факты, а факты, як кажуць, упартая рэч.

Што ўяўляе сабой сёння грамадска-палітычны рух на сяле? Ёсць усе падставы лічыць, што з кожным месяцам тут умацоўвае свае пазіцыі Беларуская сялянская партыя, утвораная 23 лютага 1991 года і маючая ў сваіх шэрагах сотні членаў. Наша асноўная задача — абарона палітычных правоў і эканамічных інтарэсаў сялянства. Я кажу — сялянства, хоць разумею — яго трэба яшчэ адрадзіць, г. зн. пазбавіць фактычна прыгонніцкай псіхалогіі, якую насаджаў у людзях калгасна-саўгасны лад. Галоўная ўмова гэтага — даць селяніну ў прыватную ўласнасць зямлю, сельскагаспадарчую тэхніку, усё неабходнае для цывілізаванага вядзення сельскай гаспадаркі.

Нас папракаюць, што мы, маўляў, за неадкладную ліквідацыю калгасаў і саўгасаў. Гэта няпраўда. Нельга разбураць старое, не стварыўшы новага. Іншая справа, што гэтыя дзяржаўныя формы гаспадарання на зямлі мэтазгодна было б пераўтварыць у асацыяцыі фермерскіх і кааператыўных гаспадарак.

У рэспубліцы дзейнічае і Сялянскі саюз рэспублікі, які аб'ядноўвае фермераў і кааператараў, якія ўжо прыдбалі зямлю, дапамагае ім набыць тэхніку, узяць крэдыты ў банку і г. д. Па сваёй накіраванасці гэтая арганізацыя блізкая да нашай Сялянскай партыі.

Нельга не нагадаць яшчэ адну грамадска-палітычную арганізацыю, якая імкнецца верхаводзіць у сельскай гаспадарцы Беларусі — гэта Саюз аграрнікаў, створаны па ініцыятыве былога ЦК КПБ. *Яго асноўная мэта — захаваць на вёсцы* калгасы і саўгасы. Кіраўніцтва саюза выношвае зараз ідэю аб пераўтварэнні яго ў палітычную партыю, маючы пры гэтым намер у будучым абраць ад яе дэпутатаў парламента, якія б там абаранялі інтарэсы старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў. Усё гэта стварае пагрозу дэмакратычнаму руху на Беларусі, адраджэнню беларускага сялянства на рэйках прыватызацыі зямлі.

Трэба адзначыць, што Саюз аграрнікаў *валодае немалымі магчымасцямі для* ўмацавання свайго ўплыву на сяле. Яго падтрымлівае мясцовая партыйна-савецкая наменклатура, ён мае, фактычна, *свой друкаваны орган — газету «Белорусская нива»*, не абдзелены саюз і грашовымі сродкамі. Сваю дзейнасць Саюз аграрнікаў будуе на папулісцкіх *лозунгах абароны інтарэсаў працоўных*, сялянства. Хочацца спытаць, дзе тыя наменклатурныя «аграрнікі» былі раней, чаму нічога не зрабілі, каб не прыйшла *наша вёска да поўнага разарэння?*

Закончу я тым, з чаго пачаў,—просім вас, спадары пісьменнікі, мастакі, кампазітары, павярніцеся тварам да вёскі, да гаротнага жыцця сялян, падтрымайце нашу Сялянскую партыю, дапамажыце сваім аўтарытэтам адрадзіць беларускае сялянства.

**Яўген ЛУГІН,
старшыня Беларускай
сялянскай партыі.**

# ДОЙЛІД БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

**Леанід ЛЫЧ**




## *4. У гісторыі шукаць будучае*

Не з'яўлялася для М. Багдановіча сакрэтам, як значна ўзрасце нацыянальная самасвядомасць, актывізуецца ўдзел беларусаў у духоўна-культурным адраджэнні, калі яны будуць добра ведаць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны. Таму і сам паэт не мог не выказацца па найбольш важных пытаннях мінулага беларускага народа, галоўным чынам па тых, што ўзвышалі нацыянальны гонар. Іх жа паэт-публіцыст багата знаходзіў у самым аддаленым часе, заўсёды імкнучыся правільна разабрацца ў сівой і не простай даўніне. Асабліва цікавіў яго перыяд Вялікага княства Літоўскага. У гэтай дзяржаве, пісаў М. Багдановіч, беларускі народ «развіваўся, як і раней, на старым корані, вытвараючы такім парадкам культуру, незалежную ад культуры велікарускай і з самага ж пачатку адражняўшуюся ад яе. Адным з бакоў гэтага развіцця быў узрост беларускай пісьменнасці, каторая з таго часу патроху становіцца на пэўны грунт».

Як бачым, гэтымі словамі паэт імкнуўся паказаць свайму народу, што ён мае багатую і шматвяковую гісторыю, бо ўжо ў час знаходжання з літоўцамі ў адной агульнай дзяржаве ў яго былі не кволыя, а старыя, дужыя карані. У процівагу пашыраным у працах рускіх вучоных поглядам на беларускую культуру і мову як на нейкія рускія адгалінаванні, паэтам прама заяўлялася аб іх адметнасці. Гонар за сваю гісторыю ў беларусаў выхоўваўся і неаднаразовым напамінкам Багдановіча ім, што нашыя землі апынуліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага не ў выніку захопу, што так часта сустракалася ў працах польскіх і рускіх гісторыкаў, а на прынцыпах добраахвотнасці.

Каб узняць гістарычную самасвядомасць беларускага народа да той адзнакі, з якой магчымы яго нацыянальнае ажыўленне, рух да палітычнай незалежнасці, патрэбна было яшчэ давесці масы да правільнага разумення, што практычна дало нам далучэнне да Расійскай імперыі ў канцы XVIII стагоддзя. Беларускаму народу афіцыйная руская гістарычная навука падавала гэтую падзею як найвялікшае для яго шчасце. І так сапраўды пачыналі думаць маладыя пакаленні беларусаў, асабліва тыя з іх, хто атрымаў хоць нязначны аб'ём ведаў па гісторыі ў якім-небудзь тыпу пачатковых рускамоўных школ. Паводле ж Максіма Багдановіча «ў падданстве ў Расіі беларускаму народу не стала лягчэй: памешчыкі былі тыя ж, уціск той жа, а абароны, як і раньш, чакаць было не ад каго». З 40-х гадоў XIX стагоддзя ўрад Расійскай імперыі адкрыта ўзяўся «за нівеліраванне беларускага народа, за масавую фабрыкацыю з беларусаў вялікарусаў», пачалі канфіскаваць і паліць беларускія кнігі, «зусім забаранілі друкаванне новых, забаранілі пропаведзь на беларускай мове, знішчожылі суд па беларускаму праву, ліквідавалі унію». Яшчэ больш узмацнілася «абеларушванне» беларускага народа пасля задушэння паўстання 1863 года.

Каб людзі лепш разумелі задачы беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, каб як мага больш беларусаў авалодвалі гэтай высакароднай ідэяй, Багдановіч неаднаразова звяртаў іх увагу на гістарычны вопыт іншых народаў, асабліва тых, хто і пры цяжкіх варунках не загінуў, пераадолеў нацыянальны прыгнёт і стаў на шлях самастойнага развіцця. Шмат цікавага і карыснага даў ён чытачам аб вызваленчай барацьбе украінцаў (русінаў) Галіцкай Русі, Угорскай Русі і Букавіны, якія спаўна зведалі культурна-моўную асіміляцыю з боку палякаў, немцаў і венграў. Калі гэтыя тэрыторыі ў час першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) адышлі да Аўстрыі, вышэйшыя станы іх насельніцтва, а таксама мяшчане амаль цалкам апалячыліся, украінскіх духоўных традыцый і мовы прытрымліваліся толькі сяляне і уніяцкае духавенства. Гэтыя дзве апошнія катэгорыі людзей і ў дадатак яшчэ вясковыя настаўнікі не паддаліся і культурна-моўнай асіміляцыі з боку аўстрыйскай і венгерскай нацый. Дададзім, што ўвесь гэты час не спыняліся і спробы паланізацыі ўкраінцаў Аўстрыі. Аднак напярэдадні першай сусветнай вайны тут дух украінскага нацыянальна-культурнага адраджэння ніколькі не ўступаў таму, што рабілася ў гэтым напрамку на асноўнай тэрыторыі пражывання ўкраінацаў — у Расійскай імперыі. Ці ж мала чаго з гэтага можна было запазычыць і беларусам?

У брашуры Багдановіча «Братья-чехи» (М., 1914 г.) прыводзяцца факты амаль поўнага анямечання чэхаў, у прыватнасці адзначалася, што ўсе адукаваныя людзі гаварылі толькі па-нямецку, зніклі чэшскія кнігі, у дзяржаўных установах, навучанні дзяцей, грамадскім жыцці ўжывалася толькі нямецкая мова. І ўсё ж немцам не ўдалося канчаткова адолець чэхаў. «Многія адукаваныя людзі ўспомнілі і ўсвядомілі, што яны — славяне, але толькі анямечаныя; яны зразумелі, што роднай мовай для іх павінна быць мова чэшская... Гэтыя людзі пачалі вучыцца чэшскай мове, вучыць ёй сваіх дзяцей, пісаць на ёй кнігі, друкаваць газеты, дабівацца для яе правоў у дзяржаве і інш.». З чэшскай мовы свядома выкідалі нямецкія словы і звароты. Урад Аўстрыі згадзіўся задаволіць патрабаванні чэхаў аб ураўненні іх мовы з нямецкай мовай. Там, дзе ўрад упарціўся адкрываць чэшскія школы, гэтае пытанне вырашалася чэшскім школьным саюзам. Прачытаўшы такое, апантаныя ідэяй беларускага Адраджэння людзі не толькі яшчэ больш пераконваліся ў яе рэальнасці, але маглі і штосьці карыснае пачэрпнуць для сябе з чэшскага вопыту. Не страціў свайго значэння ён і ў нашыя дні. Даводзіцца ж ужо не раз чуць і чытаць аб бесперспектыўнасці сучаснага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Тлумачаць такое галоўным чынам тым, што вельмі далёка зайшла за апошні час руская культурна-моўная асіміляцыя беларусаў. Згодзен — далёка, але ж не да такой ступені, як анямечанне чэхаў. А яны ж выжылі! Чаму ж мы такія гаротныя, што немінуча павінны загінуць як самабытны этнас?

У кагосьці з беларусаў і сапраўды ўжо паспелі апусціцца рукі з прычыны няўдач, слабай эфектыўнасці ажыццяўляемых мерапрыемстваў па вяртанню нацыянальнай культуры, набыцці беларускай мовай рэальнага статуса дзяржаўнай. Аднак не будзем забывацца, што ва ўсіх народаў, якія ў свой час вырашалі праблему выхаду з духоўнага занепаду, ратаваліся ад культурна-моўнай асіміляцыі, гэтая запаветная мэта дасягалася праз неверагодна вялікія намаганні калі не ўсяго, дык абсалютнай большасці народа і не на працягу пяці — дзесяці гадоў. Галоўнае — не таптацца на месцы, а рабіць хоць нязначныя крокі наперад, тады будуць бачнымі і пазітыўныя зрухі, і што немалаважна, паменшыцца лік песімістаў. І вельмі добра было б, каб не толькі на працягу аднаго — двух гадоў, але і значна меншага тэрміну заўважаліся ў нашым краі адчувальныя перамены ў суадносінах паміж беларускай культурай і мовай і рускай культурай і мовай на карысць дзвюх першых, бо і сапраўды ў сябе дома яны трывала займаюць падпарадкаванае месца ў дачыненні да дзвюх апошніх.

## *5. Заўтра народа ў нацыянальнай школе*

Нацыянальна-культурнае адраджэнне любога этнасу немагчыма без стварэння і функцыянавання нацыянальнай школы. Найбольшая трагедыя беларускага народа менавіта і заключалася ў тым, што калі на ўскраінах Расіі на рубяжы XIX—XX стагоддзяў шырока разгарнулася нацыянальна-вызваленчая барацьба, у яго не было нацыянальнай школы. І не было вельмі доўгі час, так што не адно пакаленне беларусаў вырасла, сфармавалася на зусім чужым для іх педагагічным грунце, у адрыве ад гістарычных каранёў і духоўных традыцый Бацькаўшчыны. Існавала нават сур'ёзная небяспека, а ці падтрымае з даволі расхістанай этнічнай самасвядомасцю беларускі народ ідэю самай прагрэсіўнай часткі інтэлігенцыі аб стварэнні нацыянальнай школы? Ці не будзе ён імкнуцца навучаць і выхоўваць сваіх дзетак паводле традыцый рускай альбо польскай школ?

Што такая небяспека магла існаваць, у гэтым не сумняваўся і Максім Багдановіч. Таму, нават не будучы педагогам, ён там, дзе гэта было дарэчы, імкнуўся і сам выказаць свае погляды адносна беларускай нацыянальнай школы. Яго ўвага да апошняй асабліва ўзрасла пасля таго, як у адпаведнасці з прынятым у чэрвені 1914 года ў Расійскай імперыі законам сярод усіх нярускіх народаў імкліва пачаў шырыцца рух за стварэнне і развіццё нацыянальных школ. Варта сказаць, што ў некаторых раёнах з перавагай нярускага насельніцтва такія школы ўжо даўно сталі рэальнасцю, так што Беларусі было з каго браць прыклад.

**Каб такой рэальнасцю нацыянальная школа хутчэй стала і на Беларусі, Багдановіч у сваіх публіцыстычных творах неаднаразова напамінаў яе народу, што ў далёкім мінулым тут навучанне і выхаванне маладога пакалення ажыццяўлялася на матчынай мове і пры самым шырокім выкарыстанні мясцовага матэрыялу. Той, хто прайшоў такую школу, усё сваё жыццё любіў родны край, не шкадаваў сілы для яго росквіту. Ва ўяўленнях перадавых станаў беларускага народа ідэя нацыянальнай школы не паміла нават у самыя змрочныя гады рэакцыі, якую насаджалі ў нашым краі свецкія і духоўныя ўлады Польшчы ці Расійскай імперыі. У якасці прыкладу Багдановіч прыводзіць выдадзеныя ў 1862 годзе ў Варшаве лацінскім алфавітам на беларускай мове «Лементар для добрых дзетак католікаў» і ў Вільні, па распараджэнні Віленскай навучальнай акругі, «Рассказы на белорусском наречии».**

Ідэя беларускай школы заняла прыстойнае месца ва ўсіх формах нацыянальна-вызваленчага руху ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Пацвярджэнне гэтаму Багдановіч бачыў у дзейнасці ўмеранага паводле сваёй накіраванасці «Таварыства беларускай народнай асветы», якое выдавала часопісы-аднадзёнкі «Калядная чытанка» і «Велікодная чытанка». Нібы прадбачачы няўпэўненасць некаторай часткі беларусаў у магчымасць стварэння ўласнай нацыянальнай школы, Багдановіч пераканаўча даводзіў ім, што і ў многіх іншых народаў не ўсё было лёгка на гэтым шляху, у прыватнасці, ва ўкраінцаў Галіцыі. Нават і пасля таго, як апошняя ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай адышла да Аўстрыі, усе тыпы навучальных устаноў, уключаючы і народныя школы, ажыццяўлялі навучанне украінскіх дзяцей толькі на польскай мове. Нялёгка было і чэхам стварыць нацыянальную школу пасля такога працяглага і жорсткага панавання ў іх краі нямецкай культуры і мовы. І ўсё ж такія школы запрацавалі, дапамагаючы украінцам Галіцыі і чэхам канчаткова вырвацца з-пад небяспечнай асіміляцыі, будаваць сваё жыццё на трывалым нацыянальным падмурку.

Усякія, нават малапрыкметныя зрухі ў справе адраджэння нацыянальнай школы шчыра радавалі Багдановіча, нараджалі жаданне зрабіць іх праз друк здабыткам шырокага кола людзей. Не абмінуў паэт сваёй увагі і створаны непадалёк ад Мінска, у Ратамцы, беларускі прытулак для дзяцей бежанцаў першай сусветнай вайны. Ужо самім пачаткам артыкула, напэўна ж, удалося зацікавіць чытачоў, каб яны дачыталі яго да канца. А пачынаўся той артыкул такімі словамі: «Нядаўна мне давялося пабываць у адным з нямногіх бежанскіх прытулкаў, дзе навучанне вядзецца па-беларуску (яшчэ нядаўна пра магчымасць такога навучання даводзілася толькі марыць). Гэта — зусім яшчэ новая справа. Пачынаючы з указа цара Аляксея Міхайлавіча, які прадпісаў паліць кнігі «літоўскага друку» (тут патрэбна разумець кнігі на старабеларускай мове. — **Л. Л.**), на працягу двух з лішкам стагоддзяў робяцца захады, накіраваныя на задушэнне беларускай культуры».

Да канца ажыццявіць гэтую пачварную задуму не ўдалося сілам рэакцыі. Чаго нельга было зрабіць па выпуску беларускіх кніжак на радзіме, тое выконвалі ў замежных друкарнях ці на падпольных варштатах. Каб абысці закон, такую кніжную прадукцыю даводзілася выдаваць за польскую, балгарскую, украінскую. У душах беларусаў так і не патух агонь нацыянальнага адраджэння, і таму нават ва ўмовах развязанай імперыялістамі першай сусветнай вайны, прымусовай эвакуацыі ці масавых уцёкаў няшчасных людзей з зоны ваенных дзеянняў для іх дзетак адкрылі ў Ратамцы не абы-які, а нацыянальна-беларускі прытулак, на сценах якога віселі плакаты з буйнымі надпісамі: «Шануй родную мову». У прытулку дзеці не толькі размаўлялі па-беларуску, чыталі творы беларускіх аўтараў, але і насілі нацыянальную вопратку. Наведаўшы прытулак, Багдановіч не мог не пацікавіцца і тым, як бацькі ставяцца да навучання іх дзяцей па-беларуску, і быў вельмі рады, што дарослыя з вялікай прыхільнасцю прынялі ідэю нацыянальнай школы. Сюды нават і мясцовыя людзі, што жылі за некалькі кіламетраў ад прытулка, вадзілі сваіх дзяцей, бо хацелі, каб яны ўмелі чытаць і пісаць па-беларуску. Вывучалася і руская мова, але толькі пасля таго, як дзеці авалодаюць звычкамі беларускага чытання і пісьма. На мясцовым, беларускім матэрыяле ладзілася ў пазаўрочны час і ўся выхаваўчая праца з дзецьмі.

Не застаўся па-за ўвагай Багдановіча і такі факт, як стварэнне ў 1116 годзе па ініцыятыве мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны шасцітыднёвых курсаў па садоўніцтве, агародніцтве і пчалярстве, бо і тут навучанне таксама вялося па-беларуску.

Выкліканая рухам народных мас за стварэнне беларускай нацыянальнай школы зацікаўленасць Багдановіча да данай праблемы прымусіла глянуць на яе і з пазіцый самой педагагічнай навукі, хаця гэтая галіна тэорыі не з'яўлялася яго стыхіяй. Зразумела, паэта больш за ўсё мог зацікавіць моўны аспект педагогікі. І трэба сказаць, што па ім былі выказаны думкі, якія нельга не браць пад увагу і ў нашыя дні, калі мы хочам з маладога пакалення фармаваць нацыянальна свядомых беларусаў, здольных у недалёкім будучым стаць сапраўдным ядром самабытнай беларускай нацыі. Багдановіч шчыра шкадаваў, што ў той час, як у шэрагу народаў Расіі хоць у агульным плане высветлена ў педагагічнай літаратуры значэнне выкладання ў розных навучальных установах на матчыных мовах, дык на Беларусі гэтая важная праблема зусім яшчэ не закранался. Такая акалічнасць і прымусіла Багдановіча хоць з кароткай нататкай выступіць у 1916 годзе, каб «даць у распараджэнне чытача некаторы фактычны матэрыял датычна тых мінусаў, якія нясе з сабой выкладанне ў беларускай школе на велікарускай мове». Такіх мінусаў ён знаходзіў нямала. Больш за ўсё хвалявала, што «пры навучанні па-велікаруску з абыходку беларускага дзіцяці выкасоўвалася маса своеасаблівых, чыста беларускіх слоў, вобразаў, зваротаў і, значыцца, усе звязаныя з імі жывыя, ясныя і прывычныя ўяўленні і перажыванні. Гэта — несумненна збядненне дзіцячай псіхікі».

**У разглядаемым артыкуле даволі пераканаўча, з прывядзеннем канкрэтных прыкладаў выказвалася думка, што навучанне на рускай мове ў школах Беларусі выклікае ў дзяцей цяжкасці з прычыны наяўнасці ў гэтых блізкіх паводле сваёй лексікі моў агульных, але зусім розных па значэнні слоў. Сустрэўшы ў рускай кнізе слова «плот», беларускае дзіця, напэўна ж, будзе лічыць, што гэта — «забор». адпаведна «качка» — «утка», «рок» — «год», «люлька» — «трубка» і г. д., а прачытаўшы «он мне отказал», зразумее, як «он мне ответил». Пасля прывядзення даволі значнай колькасці такіх яскравых прыкладаў Багдановіч заключае: «...прапаноўваць беларускаму дзіцяці такую кнігу — значыць даваць яму замест хлеба камень і замест рыбы вужаку».**

Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.

Вышэйпрыведзеная цытата — гэта, так сказаць, усяго толькі публіцыстычнае афармленне аўтарам сваёй думкі. Але ў разглядаемым артыкуле ёсць і разважанні, вартыя выказванняў багатых на прафесійны вопыт асоб, салідных вучоных-педагогаў, прычым такіх, што не адарваліся ад каранёў свайго народа. Прывяду як мага паўней гэтую слушную думку Багдановіча на хвалюючую нас і сёння праблему фармавання маладой змены беларускай нацыі: «...устараняючы беларускую мову са школы, мы вядзем да растраты вынікаў аграмаднай, шматвяковай духоўнай работы цэлага народа, збіваем думку дзіцяці са звыклых псіхалагічных сцяжынак і груба ўрэзваем яго душэўны свет; уводзячы ж мову велікарускую, мы ставім на яго шляху шэраг перашкод, засяляем яго псіхіку вобразамі змярцвелымі, няяснымі і ў многіх выпадках зусім недарэчнымі. Пры такіх варунках карыстацца велікарускай мовай замест беларускай можна толькі на шкоду дзіцяці, што асабліва можна сказаць пра першапачатковыя ступені навучання».

Не ведаю, якія асацыяцыі гэтыя словы беларускага песняра выклічуць у чытача, а ў мяне дык яны нараджаюць думку, а ці не ўдалося б нам пазбегнуць франтальнага разбурэння нашай нацыянальнай школы, каб вышэйпрыведзеная цытата ў якасці плаката, транспаранта ці ў іншай форме на працягу многіх гадоў пасляваеннага часу была змешчана ва ўтульных і прасторных кабінетах першага сакратара ЦК КПБ, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Старшыні Савета Міністраў БССР, міністра народнай адукацыі БССР? Напэўна, яны не лічылі б тады масавае пераўтварэнне беларускамоўных школ у рускія за вялікую перамогу на шляху збліжэння і зліцця нацыянальных культур і моў, затое, магчыма, адважыліся б на такі крок, як перавод значнай часткі тэхнікумаў і інстытутаў на беларускую мову, паколькі поўная адсутнасць у рэспубліцы такіх устаноў «падбівала» бацькоў школьнікаў узяць на сябе надзвычай шкодную для лёсу беларускай нацыі ініцыятыву па пераводзе беларускай школы на рускую з тым, каб зрабіць сваіх дзяцей больш здольнымі да паступлення ў сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Не, такой высокай наменклатуры дзяржаўныя і партыйныя дзеячы не чыталі твораў выдатнага беларускага песняра. Па іх віне ўся сістэма народнай адукацыі Беларусі амаль цалкам адышла ад нацыянальных традыцый і цяпер знаходзіцца ў такім цяжкім крызісе, што няма аніякіх важкіх падстаў спадзявацца паспяхова выйсці з яго ў бліжэйшы час, тым больш, што ажыццяўляемыя ў гэтай сферы захады не носяць кардынальнага характару, у большай частцы не закранаюць глабальных праблем стварэння нацыянальнай школы.

## 6. З родным словам да Бога

Дбаючы пра адраджэнне роднага краю, уступленне яго на шлях самабытнага нацыянальнага развіцця, Максім Багдановіч не мог не паспрабаваць вызначыць і ролі рэлігіі ў гэтых лёсаносных працэсах, тым больш, што тады яна мела даволі шырокае распаўсюджанне ў гушчах народа. Сімпатыі паэта былі на баку колішняй уніяцкай царквы за тое, што ў цяжкія гады гісторыі беларускага народа яна падтрымоўвала яго культуру, «з'яўлялася ў краі нібыта нацыянальнай беларускай рэлігіяй[1]. Пачынаючы з канца XVIII стагоддзя, уніяцкім духавенствам на беларускай мове прамаўляліся пропаведзі, выдаваліся рэлігійныя песнапенні і да т. п. Апошняй праявай гэтай дзейнасці з'яўляецца выдадзены ў 1837 г. беларускі катэхізіс; праз два гады адбылося ўз'яднанне уніятаў, катэхізіс спалены, пропаведзь на беларускай мове забаронена». Такім скупым пералікам падзей і фактаў Багдановіч, напэўна, разлічваў абудзіць у чытача павагу да нацыянальнай рэлігіі продкаў, памяць пра якую, аднак, з году ў год слабела ў народзе.

Паэт востра крытыкаваў палітыку Расійскай імперыі і ў адносінах да каталіцкай царквы Беларусі. Вядома, што і гэтая канфесія дзе-нідзе ў дабавачным богаслужэнні выкарыстоўвала беларускую мову, выдавала на ёй рэлігійныя кнігі, і таму, на яго думку, «для найменне каталіцызму польскай верай і нараджаемых адсюль вынікаў не было месца». І толькі пасля таго, «калі з боку ўраду пасыпаліся сістэматычныя ўдары, якія мелі мэтай зніштожыць беларусаў як нацыянальнасць», забаранілі выдаваць па-беларуску кнігі, ужываць беларускую мову ў касцёле, і апошні цалкам перайшоў на польскую мову, у выніку чаго касцёл на Беларусі стаў з'явай польскай, і не дзіва, што той з беларусаў, хто наведваў яго, называў сябе палякам. Таму мне здаецца зусім слушным пастаўленае Багдановічам пытанне: «Міжволі пытаеш сябе: хто ж больш зрабіў для апалячвання беларусаў—паланізатары ці «русіфікатары»?

Адказ Багдановіча на пастаўленае пытанне быў такі: улады Расійскай імперыі знішчожылі рэшткі нацыянальных сіл беларускага народа, «змагацца з «русіфікацыяй» ён не мог, але па той жа прычыне ён не мог змагацца і з паланізацыяй, і ўсе яе далейшыя поспехі павінны застацца на адказнасці «абрусіцеляў», якія паралізавалі нацыянальную самасвядомасць беларускага народа». Бадай больш справядліва нельга было ахарактарызаваць такую антыгуманную, шавіністычную палітыку ў адносінах да карэннага насельніцтва беларускага краю.

Будучы шчырым прыхільнікам самай шырокай талерантнасці ў пытаннях рэлігіі, Багдановіч, вядома ж, ніяк не мог згадзіцца з тым, каб дзейнасць якой-небудзь канфесіі была скіравана на размыванне беларусаў як адзінага этнасу. Калі паэту стала вядома, што ў час аднаго з пасяджэнняў Таварыства славянскай культуры (1914 г.) Курнатоўскі прапанаваў яго рускай секцыі ў якасці палюбоўнага падзелу беларусаў два мільёны з іх каталіцкага веравызнання «адлічыць да Польшчы ў мэтах іх паланізацыі, астатнюю ж частку русіфікаваць, каб беларускі народ, так сказаць, «рассасаўся» паміж дзвюма найбольш магутнымі суседнімі нацыямі», ён даказаў поўную беспадстаўнасць і антынавуковасць такога погляду, заяўляючы, што розніца ў веравызнанні не можа быць прычынай расколваць «беларускі народ на дзве непадобныя па культуры велічыні. Бо ў беларуса, няхай ён будзе католік альбо праваслаўны, адзін і той жа псіхічны тып, мова, бытавы ўклад». Шкада, што гэты справядлівы погляд яшчэ і сёння далёка не ўсімі правільна разумеецца ці свядома ігнаруецца, чым толькі ўскладняюцца працэсы адраджэння беларускай нацыі, узводзяцца штучныя бар'еры на шляху яе кансалідацыі ў больш маналітную і жыццяздольную супольнасць людзей.

Глыбокія веды аб ролі рэлігіі ў нацыянальным жыцці беларусаў выявіў Багдановіч у сваёй палеміцы з графам Ігнацьевым, выкарыстаўшы для гэтага ў 1916 годзе магчымасць выступіць у адным з часопісаў Украіны. Каб выратаваць два мільёны беларусаў-католікаў ад паланізацыі, Ігнацьеў, на першы погляд, прапанаваў нібыта правільнае рашэнне: «...увесці ва ўсіх касцёлах, якія задавальняюць рэлігійныя патрэбы беларусаў-католікаў, замест польскай рускую мову (размова ідзе, вядома, пра гэтак званае «дабавачнае» богаслужэнне)». Але такое прапанаванне правільнае толькі на першы погляд, бо ўвядзенне рускай мовы ў касцёл магло сустрэць моцнае супраціўленне яго паствы з ліку беларусаў-католікаў, разумеецца імі як замена каталіцызму праваслаўем. Прымусовае ўкараненне рускай мовы ў гэтую канфесію, слушна пярэчыў Багдановіч Ігнацьеву, прывядзе да таго, што «беларускае каталіцкае асяроддзе, якое і без таго знаходзіцца «ў сферы прыцягнення» польскай культуры, акружыць польскую мову арэолам, вяртанне яе ў касцёл зробіць прадметам сваіх надзей і памкненняў і ўжо, адпаведна з гэтым, у сваім прыватным жыцці адвядзе ёй пачэснае месца, пасадзіць на покуць, пад абразы. Перад намі будуць ужо не аб'екты паланізацыі, а празеліты[1] яе. Створыцца масавы стыхійны зрух у бок Польшчы як натуральная рэакцыя на высунуты гр. Ігнацьевым праект, і, можа быць, беззваротна вырашыць далейшы нацыянальны лёс гэтага народа».

З такой высновай Багдановіча нельга не пагадзіцца, бо ўжо і раней — у 70—80-я гг. — у выніку насаджэння рускай мовы ў касцёл даводзілася сустракацца з масавай пераарыентацыяй беларусаў-католікаў на польскую культуру і мову. Да такіх жа вынікаў прывяло і навучанне дзяцей чыста беларускіх мясцовасцей у школах закону божаму замест польскай на рускай мове. Спатрэбілася шмат часу, каб пераканацца ў бесперспектыўнасці, вялікай шкодзе адміністрацыйных метадаў у барацьбе з паланізацыяй, якую праводзіла каталіцкая царква на Беларусі, ад замены ў касцёлах польскай мовы на рускую. Але і з гэтай няўдачы былі атрыманы не тыя, што трэба, урокі. «Справа дайшла да таго,—пісаў Багдановіч,— што ў 1909 г. на кіеўскім чорнасоценным з'ездзе «патрыёт» п. Кулакоўскі прапанаваў аддаць беларусаў-католікаў у ахвяру паланізацыі, каб з тым большай энергіяй узяцца за фабрыкацыю велікарусаў з беларусаў-праваслаўных».

Падобнае мог сказаць толькі чалавек, які меў памылковыя ўяўленні пра нацыянальную самасвядомасць беларусаў таго часу. Пад уплывам тых пазітыўных перамен, якія адбываліся ў жыцці іх краю, ужо як у асноўнай сваёй масе беларусы-католікі не хацелі быць палякамі, так і беларусы-праваслаўныя не хацелі быць рускімі. Нездарма такімі частымі сталі выпадкі звароту беларусаў-католікаў да Рымскага папы з просьбай аб увядзенні беларускай мовы ў касцёлы. І Ватыкан, як правіла, заўжды даваў згоду на тое, каб у касцёлах Беларусі дабавачнае богаслужэнне вялося не на польскай, а беларускай мове. Такое рашэнне папы знаходзіла шырокую падтрымку не толькі ў многіх ксяндзоў, але і ў больш высокіх духоўных асоб. На цвёрды грунт стала выданне на беларускай мове каталіцкіх брашурак, каталіцкага штотыднёвіка «Bielarus». «Што датычыць увядзення беларускай мовы ў касцёле, — засведчана ў працах Багдановіча, — дык яна ўсюды сустракалася з радасцю, і не раз даводзілася чытаць, што людзі ў час малення плакалі, пачуўшы ў храме родную мову».

Думаецца, што аналагічную рэакцыю выклікаў бы і сёння ўвод беларускай мовы ў каталіцкія храмы з чым мы так марудзім, стрымліваючы гэтым самым размах сучаснага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Нашу пасіўнасць у гэтай немалаважнай справе нельга вытлумачыць ні адсутнасцю беларускамоўных ксяндзоў, ні цяжкасцямі выдання на беларускай мове патрэбнай рэлігійнай літаратуры. Ва ўсім гэтым у нас цяпер не горшыя магчымасці, чым на пачатку бягучага стагоддзя.

Паўсюднае прабуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў у пярэдадзень і першае дзесяцігоддзе пасля рэвалюцыі 1905 года і з'явілася для Багдановіча галоўнай падставай, каб не згадзіцца з меркаваннем Ігнацьева, што змагацца з паланізацыяй беларусаў трэба толькі праз увядзенне рускай мовы ў каталіцкае богаслужэнне. Выратаваць іх ад паланізацыі, паэт лічыў, можна толькі шляхам пераводу богаслужэння ў касцёле на беларускую мову. На думку паэта, яна павінна была б заняць такое ж месца і ў праваслаўных храмах.

Не выклікае сумненняў, што Багдановіч на працягу ўсяго свайго жыцця быў вялікім прыхільнікам беларускай нацыянальнай царквы, якая ў адрозненне ад рускага праваслаўя і польскага каталіцызму не размывала, а, наадварот, умацоўвала б этнічныя асновы беларускай нацыі, дапамагала б кожнаму з іх правільна вызначыць сваю нацыянальную прыналежнасць, садзейнічала б захаванню і прымнажэнню духоўнай спадчыны роднай Бацькаўшчыны. Пры любой нагодзе паэт імкнуўся нагадаць сваім суайчыннікам, што і ў далёкім мінулым на іх мове вернікі звярталіся да Бога. У няспынным змаганні беларусаў за пачэснае месца іх роднага слова ў богаслужэнні ён высока цаніў інструкцыю кансісторыі Магілёўскай архідзіяцэзіі ад 1794 года, у адпаведнасці з якой усім плябанам давалася ўказанне пасля заканчэння набажэнства гаварыць казанні з амбонаў касцёлаў на той мове, якую разумее народ.

Сімпатыі Багдановіча былі і на баку магілёўскага біскупа Сымона, які вызначаўся высокім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, заўжды клапаціўся пра захаванне беларускай духоўнай спадчыны. Не падзяляючы пазіцыі царкоўных і свецкіх уладаў Расійскай імперыі па пераводзе богаслужэння ў касцёлах Беларусі з польскай мовы на рускую, ён увесь час, і асабліва ў апошнім дзесяцігоддзі XIX стагоддзя, заяўляў, што мяняць польскую мову патрэбна толькі на беларускую. Яму ўдалося пераканаць ў гэтым нават мінскага губернатара князя Трубяцкога, які ў сваю чаргу пастараўся ў даным накірунку паўплываць на рускі ўрад. У выніку перамоваў апошняга з Рымам быў атрыманы ў маі 1897 года ад яго дазвол ужываць беларускую мову ў касцёльным богаслужэнні тых мясцовасцяў, «дзе беларускі дыялект зразумелы народу».

(Заканчэнне будзе).

[1] У артыкуле «Беларусы» (надрукаваны ў час. «Нацыянальныя праблемы», 1915, № 2) гэтую рэлігію Багдановіч ужо назваў нацыянальнай беларускай, нацыянальным элементам.

[1] Даслоўна: прышэлец. Навасхілены ў якую-небудзь веру, вучэнне.

# Беларускае мастацтва ў Баварыі

У кастрычніку ў нямецкіх гарадах Ульм і Лаунген адбыліся дабрачынныя выставы-аўкцыёны мастакоў групы «Галіна» і майстроў дэкаратыўна - прыкладнога мастацтва Беларусі. Гэту акцыю наладзіў Беларускі фонд культуры па ініцыятыве маладзёжнай арганізацыі «Наступны прыпынак — новае жыццё», якая мае трывалыя кантакты з моладдзю розных краін. Мэтай акцыі было: з аднаго боку здабыць валюту, якая потым пойдзе на лячэнне чарнобыльскіх дзяцей — ахвяр Чарнобылю, з другога — пазнаёміць нямецкіх аматараў мастацтва з сучасным станам беларускага выяўленчага мастацтва розных плыняў і напрамкаў.

Можна лічыць, што акцыя прайшла паспяхова, было рэалізавана звыш 80% выстаўленых твораў, у асноўным жывапіс. Да гэтага мерапрыемства былі прымеркаваны таксама семінары, дыскусіі па мастацтве, эканоміцы, палітычным жыцці Беларусі. Гучалі запісы «Песняроў», Данчыка, «Мроі», госці частаваліся стравай беларускай кухні.

Вялікую маральную і матэрыяльную падтрымку гэтай акцыі аказалі тамтэйшыя беларусы Л. Урбан, В. Станкевіч і іх калегі па радыё «Свабода» і асабліва мастакі бацька і сын Чайкоўскія. Анатоль Чайкоўскі разам з мастакамі «Галіны» таксама выставіў свае творы. Зробленая валюта пойдзе на арганізацыю лячэння чарнобыльскіх дзяцей на возеры Байкал у Цэнтры ўсходняй медыцыны.

Алесь ГАРАНОВІЧ.



У сувязі з публікацыяй у мінулым нумары «ЛіМа» праекта эталона дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь рэдакцыя лічыць неабходным яшчэ раз падкрэсліць, што гэтая выява «Пагоні» з'яўляецца толькі праектам, работа над якім працягваецца.

# «Хай багоў там не будзе ніколі...»



**Не надта юбілейныя нататкі ў сувязі з 95-годдзем з дня нараджэння Міхася ЧАРОТА**

Імя яго на слыху ў кожнага са школьных гадоў. Пясняр рэвалюцыйнага ранняя, адзін з самых актыўных удзельнікаў «сонечнага паходу» ў будучыню, ініцыятар стварэння і кіраўнік першай у рэспубліцы літаратурнай арганізацыі «Маладняк». І канечне ж, аўтар шырокавядомай паэмы «Босыя на вогнішчы» і крыху менш вядомай, але такой важнай у станаўленні беларускай Лeнініяны паэмы «Ленін».

Імя гэтае — Міхась Чарот. Пры вымаўленні яго душа напаўнялася чымсьці рэвалюцыйна-ўзнёслым, рамантычна акрыленым, прагнула дзеяння, прастору; хацелася слгаць у завоблачныя вышыні і далячыні, туды, дзе, вядома ж, будзе лепшае жыццё:

**Плывём к прыгожа-светлай далі**
**На хвалях вогненнага мора...**
***А полымя ўсё плавіць, плавіць***
**Палёў абшары, лес і горы...**
**Плывём к прыгожа-светлай далі.**

І няўцям было як след разважыць над самім радком. Задумацца: а што ад яго застанецца, калі адкінуць максімалізм? Што будзе пасля таго, як полымя «сплавіць» і «абшары, лес і горы»? Зрэшты, думаць не было патрэбы, бо такі быў «размах» душы лірычнага героя, бо ён жа не абы-хто, а launch ператваральнік жыцця, бунтар, змаганец за дзень заўтрашні.

Карацей кажучы, мы прымалі М. Чарота такім, якім падавала яго нам афіцыйнае літаратуразнаўства. Чыталі ў паэта тое, што было прадстаўлена ў пазнейшых, пасляваенных выданнях, у тым ліку і ў Зборы твораў у трох тамах, што выйшаў у «адліжным» 1958 годзе.

А які ён «іншы», не хрэстаматыйны М. Чарот? Дзеля гэтага зазірнём хоць бы ў другое выданне яго першай кнігі «Завіруха», пазначанае 1929 годам. І тут ён спяваў песні рэвалюцыі і, няма сумнення, рабіў гэта ўсвядомлена. Але, вітаючы будні абнаўлення, ён не толькі не адмаўляўся ад старога, але і задумваўся, а ці неабходна перакрэсліваць мінулае канчаткова і беспаваротна?

На жаль, ніхто не рабіў хоць маленькай спробы зразумець: што было на душы ў рэвалюцыйнага паэта, які бачыў, як падрываліся народныя карані, як вынішчалася, быццам пустазелле, людская вера, што фарміравалася стагоддзямі. Ці не пра гэта верш «Над крыжам»?

**Ля вёскі ўбогай і богам забытай**
**Крыж згніўшы, схіліўшысь стаіць**
***І восямі знізу увесь абабіты,***
**Чуць вецер павее—дрыжыць...**

Толькі што пракацілася вайна, апусцелі вёскі, «застаўся... адзін... убогі, сляпы і старэнькі, чуць жыў» дзядуля. Ён для паэта — увасабленне самой зняведанай, нямоглай Беларусі. Ягоная малітва — адначасова і сыноўняя споведзь у любві да Бацькаўшчыны:

**О, краю мой родны, усімі забыты!**
**Я, сын твой, цябе не забыў.**
**Хай буду я куляй варожай забіты,**
**Не кіну таго, хто паіў і карміў...**

Спакваля споведзь станавілася і споведдзю самога паэта: «Не кіну ніколі цябе, мая вёска! Пад крыжам лепш лягу ў зямліцы сваёй!»

Стары селянін застаўся ляжаць пад крыжам. Але нялёгка і няпроста давалася адмаўленне ранейшага і паэту. З аднаго боку, М. Чарот разумеў: сёе-тое мусіць знікнуць назаўсёды. З другога,— бачыў, што многае, зробленае пад знакам вялікай і святой ідэі, не адпавядала рэвалюцыйным ідэалам. Ды гаварыць пра гэта адкрыта не мог. Гаварыў іншасказальна. Як у вершы «На шляху Адраджэння», дзе відочна раздвоенасць душы лірычнага героя (чытай М. Чарота). Навідавоку тое, што перажываў вядомы герой з «Дзвюх душ» М. Гарэцкага — «душа дваілася»:

**І блукаю цяпер між небам і зямлёю,**
***Нібы жабрак сляпы, хаджу я каля плоту***
**І вобмацкам шукаю долі...**
**Ужо даўно**
**Праз чорны дым паўдзённага туману**
**Гляджу я ў потнае вакно**
**Вялікай будучыні...**

Нараджалася пачуццё роспачы: «Мне хочацца разбіць яго... разбіць і глянуць, — *якія колеры* фарбуюць новы свет?». Роспач і — о, божухна! — ці не здатнасць зазірнуць на шмат гадоў наперад:

**Вы чуеце: я — паэт,**
**Але мяцеліцы свінцовых куль**
**Я не баюся...**
**Схаваныя ў магілах гурбы цел**
**Намнога вырастуць, калі там лягу я...**

Прадчуваў, што такое многім не спадабаецца: «Я ведаю, што вас пужаюць крыкі маёй душы». Прадчуваў, але не мог не пісаць пра набалелае. Верш «З сучасных настрояў» таксама з шэрагу «невядомых» твораў М. Чарота. Зноў «дваенне душы»:

**Хачу я пець на новы лад,**
**Каб гук ляцеў вясёлай песні...**
**Спяваю сумна, рад не рад,**
**Хоць сонца й свеціць на прадвесні...**

Як жа спяваць аптымістычна, калі ў памяці малюнкі, пабачаныя пад час вандровак па роднай зямлі: «чорнае поле ад магілаў», «мільёны дзетак-небарак, там між магіл шукаюць долю». Цяжка было паэту. Цяжка, бо ён належаў да тых, хто гэтае «новае жыццё» сам набліжаў. Адбывалася, карыстаючыся выразам другога знакамітага песняра рэвалюцыі, наступленне на горла ўласнай песні. Паэт славіў будні і паэт жа пакутаваў ад гэтых будняў:

**Я нейкім чорным туманом**
**Усё жыццё сваё спавіты...**
**Я бачу шчасце толькі сном...**
**Мой човен хвалямі разбіты.**

Міхась Чарот вымушаны быў пастаянна як бы змагацца з самім сабою: «І я хачу развеяць сум, каб песні радасці пець краю... Але ўвесь рой вясёлых дум жыццё без жалю разганяе...» Іншага выйсця для яго не было, бо ён свядома стаў актыўным удзельнікам падзей, пра якія трапна сказаў у вершы «Вечная бура»:

**І бураломныя гады,**
**Як хмары чорныя нясуцца над зямлёю...**
**Усё ломяць на шляху...**
**І кволых усіх людзей мяняе новы род...**

У гэтым вершы ёсць і іншыя радкі, што самым непасрэдным чынам тычацца гэтай «вечнай буры»: «Ты нішчыш няволю, знявагу, пануру, ты слабаму — радасць, а моцнаму — страх!». Аднак уся справа ў тым, што сам М. Чарот да слабых ніколі не належаў, і ў гэтым лёгка пераканацца, калі прыгадаць асобныя старонкі з яго падпольнай дзейнасці ў час акупацыі Беларусі буржуазнай Польшчай. Як сведчыў М. Хведаровіч, спасылаючыся на шматлікія факты, мужнасці і гераізму яму было не займаць. Значыць, страх моцных, што фігуруе ў вершы, — гэта і страх самога М. Чарота.

У шэраг «нехрэстаматыйных» твораў упісваецца і верш «Буралом», у якім, на маю думку, асабліва значны падтэкст:

**Гады мінуць... А можа і сталецці,**
**Як тыя гарады Гамора і Садом,**
**Загіне гэты край ад буры ліхалецця**
**І ўнукі нашыя пабачаць буралом.**

Буралом і... светлы дзень? Адказ, бадай, у заключнай страфе:

**І вось, калі цяпер віхор жыцця нясецца,**
***Руйнуе, ломіць ён мінулага ўвесь лад,***
**Мо гэта творчы час, не буры ліхалецця,**
**Бо гэты буралом для будучыні клад.**

Ці настаў творчы час, ці не — М. Чарот канкрэтна не адказваў, апошнюю кропку тым самым не ставіў.

Сумненні і ваганні прысутнічаюць і ў паэме «Карчма», якая асобным выданнем выйшла ў 1926 годзе і прысвячалася Янку Купалу. Зноў паэт асэнсоўваў няпросты шлях чалавека да праўды, веры. Неабходна было мець грамадзянскую смеласць, каб не пабаяцца сказаць: «Карчма — то мінулага помнік... У карчме мне лягчэй было плакаць».

У паэме паўстала сама супярэчлівасць эпохі, відаць, да чаго можа прывесці (і да чаго прывяло) узвядзенне рэвалюцыйнай ідэі ў абсалют. Сумленны карчмар Шлёма, правілам жыцця якога было: «У цябе калі кіне хто камень — падымі і вазьмі ў кішэнь», стаў па сутнасці нікому не патрэбным. Мяняліся ўлады, але гатовыя былі яго караць і тыя, і другія. Адны патрабавалі закрыць карчму, другія «хацелі павесіць, — усё за тое, што сын камісар».

Верш жа «Новы Алімп» наўрад ці асмеліўся хто апублікаваць і гадоў шэсць назад: «Чуць заціхлі гулянкі і спевы алімпійскіх бясстыжых багоў, як мінулае бачым мы зноў... І зноў чуем старыя напевы... Але бачым Алімп ужо новы, на ім гульні багоў і багінь». Рэвалюцыйных багоў і бажкоў меў на ўвазе М. Чарот. І свой голас паэта ўзнімаў супраць ідалапаклонства, супраць вялікіх і малых культаў:

**Не багі нас, а мы багоў творым,**
***Прыпадаем к іх гразкім нагам...***
**«Кара і смерць!.. Усім новым багам»,**
**Хай усе, як адзін, загаворым...**

Да голасу М. Чарота, як і трэба было чакаць, ніхто не прыслухаўся. Ды і скуль было прыслухацца, калі гэтыя бажкі ўжо пазаймалі пасады, сталі непагрэшнымі і «вялікімі»!

Пасля ж — пра гэта пісалася ўжо шмат — паэт перанёс доўгія катаванні і быў расстраляны 14 снежня 1938 года.

Нялёгкі, няпросты — жыццёвы і творчы — шлях аднаго з самых слынных песняроў рэвалюцыі ў беларускай паэзіі. Так і хочацца паўтарыць услед за ім:

**Хай багоў там не будзе ніколі,**
**Дзе чырвоны сцяг працы гарыць...**

Дадамо: пад любым сцягам. Ні ў жыцці, ні ў літаратуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## ЗА НУМАРАМ— НУМАР




№ 8 1991

Чарговы, восьмы нумар часопіса «Полацак» адкрываецца словам рэдактара С. Белай «Аб чым зямля спявае»: «З 16 верасня пайшоў 25 год, як Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч купілі зямлю, з якой пачалася гісторыя вядомага беларускага куточка ў Амерыцы пад назвай Полацак. Сёлета споўнілася 17 гадоў, як тут упершыню адзначалі беларусы Паўночнай Амерыкі сваю XI сустрэчу і роўна год з часу асьвячэння новай залы Полацака і святкавання ў ёй 1-й сусветнай сустрэчы беларусаў. Гэтым і іншым памятным падзеям у жыцці Полацкай зямлі прысвячаем мы восьмы нумар часопіса «Полацак».

«Полацкія крывічы» — тэма роздуму Ю. Штыхава. «Полацкае княства ў XI ст.» — досвед С. Тарасава «Аб іконе Багамацеры Эфескай у старажытным Полацку» разважае В. Пуцко. Са зместам вядомага музычнага «Полацкага сшытка» знаёміць Л. Касцюкавец.

«Эмблема на шчыце герба «Пагоня» — чарговая публікацыя М. Белямука. Ён жа працягвае знаёміць з лістамі М. Ермаловіча. Перапіска іх — яшчэ адно сведчанне, што на беларускай зямлі ва ўсе часы знаходзіліся руплівцы нацыянальнага Адраджэння.

«Полацак» адзначае 70-годдзе паэта Я. Юхнаўца, друкуецца слова пра яго і некалькі вершаў.

З іншых матэрыялаў у нумары назавём працяг успамінаў Я. Ціхановіча, дакументальнай аповесці С. Белай «Максімава Яраславія», артыкулы С. Менскай «Татары на зямлі Беларусі» і Л. Налівайкі «Адраджэнцы «Пагоні», інфармацыя з жыцця замежжа.

**А. В.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**
**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕУСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ—33-21-58; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04. аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт —33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12